16 чэрвеня 2017 | № 23 (537)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

**Гарэлка як фактар падзення Рэчы Паспалітай**
стар. 10–11

ISSN 2218-2144



# 22 чэрвеня. У палоне міфаў

## Народная трагедыя ператварылася ў залаты фонд прапагандыста



Алесь КІРКЕВІЧ



Зжывацца з міфамі проста, развітвацца — цяжка. Пры гэтым, аснова міфу — не логіка ці аналіз, а паўтарэнне і завучванне. Каб ад зубоў адскоквала, як нас вучылі ў школе.

Дзед аднаго майго добрага знаёмага меў 90 гадоў і перажыў вайну на занятай немцамі тэрыторыі. Да пэўнага часу ён памятаў рэаліі акупацыі: старасту, паліцыю, паборы. Але ў пэўны момант яго нібыта «пераклініла»: пачаў узгадваць Сталінград, эшалоны, якія ён нібыта пускаў пад адхон і г.д. Адкуль усё гэта ўзялася? Фільмы ды кніжкі пра вайну, якія стары спажываў, браў на веру, а потым — уключаў у мегабайты сваёй асабістай памяці.

Так і з намі. Праўда пра вайну, яе рэаліі, пачатак і канец, нам навеяная не столькі аб'ектыўнымі крыніцамі, колькі школьнай адукацыяй, прапагандай, эмацыйнымі фільмамі з удзелам нашых «любімых» акцёраў. У гэтым розніца паміж гісторыяй і міфам. Міф не патрабуе довадаў — адно веры.

Сёлета, 22 чэрвеня, як і год, і пяць, і дзесяць гадоў таму, піянеры будуць пускаць вянкі па рэках, каля «вечных агнёў» будуць выстаўленыя пачэсныя варты, у вушах зазвіняць ад шчымлівай хвіліны маўчання, а па ТБ пакажуць кіно пра Брэсцкую крэпасць. «Эх, дороги, пыль да ту-у-уман...» Але дзе гісторыя, а дзе пыл з туманам?

Калі пацікавіцца ў любой вёсцы Заходняй Беларусі ў старых людзей, хто яшчэ пры памяці, калі пачалася вайна, вам адкажуць: у 1939-м. Менавіта тады на Гродна ўпалі першыя бомбы, а не «22 июня, ровно в четыре часа...». Брэсцкую крэпасць тады таксама абаранялі: толькі жыхары Рэчы Паспалітай, а не чырвонаармейцы. Здаецца, і ва ўсім свеце пачаткам той страшэннай вайны лічаць 1939-ы. Што ж з намі не так?

Бяда ў тым, што народная трагедыя ў нас даўно ператварылася ў залаты фонд прапагандыста і клândайк міфаў. Германія, канешне ж, напала ў 1941-м «вераломна» — так нас вучылі. Нічога страшнага ж няма ў тым, што СССР усе 30-я гады прытрымліваўся адносна Гітлера вельмі цікавай палітыкі: з аднаго боку, слова «фашыст» было лаянкай, у Саюзе ўвесь час раскрываліся «фашысцкія змовы» ды «агенты германскай выведкі», з іншага боку — Саюз рыхтаваў у сваіх вучэльнях нямецкіх афіцэраў, Молатаў заключаў з Рыбентропам пакты, а часткі Вермахта разам з Чырвонай Арміяй хадзілі парадамі па Брэсту ў 1939-м.

Нам дагэтуль убіваюць у галовы тэрмін «акупацыя», хоць як па-іншаму можна назваць савецкае панаванне, якое перакрэсліла падчас Грамадзянскай вайны нашу нованароджаную дзяржаву — БНР? Ці, магчыма, БССР было незалежнай дзяржавай са сваім сапраўдным урадам, войскам, грашовымі адзінкамі ды нацыянальнай палітыкай? Так, немцы акупавалі Рэч Паспалітую — незалежную дзяржаву, — але ў выпадку з нашай Бацькаўшчынай, яны занялі тэрыторыю падкантрольную Маскве: адзін акупант змяніўся на іншага.

Зусім хутка мы будзем адзначаць 3 ліпеня — дзень вызвалення Беларусі з нямецкага ярма. Даруйце, але 3 ліпеня — гэта дата вызвалення Мінска, калі на тое пайшло. А як жа Слонім, Навагрудак, Гродна, Брэст, Баранавічы, у якіх яшчэ стаялі нямецкія войскі?

Зрэшты, якая розніца? Галоўнае ж — паўтарэнне. Чым больш разоў паўторыш, тым больш праўда. З каго пасля спытаць? Школьнікі спашлюцца на настаўнікаў, настаўнікі — на Міністэрства адукацыі, Міністэрства — на міністра, міністр — на ўрад, а тыя скажуць: «Такі быў час». У выніку, нібыта, ніхто і не вінаваты. Так і вучым гадамі табліцу множання, дзе два на два — пяць. Оруэл адпачывае.

> **Арыентавацца на міфы ў XXI стагоддзі — шлях у бездань**

Канешне, міфамі перапоўненая і нацыяналістычная трактоўка гісторыі. Толькі там іншыя трэнды: Рэч Паспалітая як «рай на зямлі», высакародная шляхта, «святыя» айцы БНР… Але як быць з самазабойчай «дэмакратыяй» і палітычным калапсам у Рэчы Паспалітай? Як быць са шляхтай, якая мела звычку ігнараваць «паспалітае рушэнне», то бок, моманты, калі панове былі абавязаныя з'яўляцца на вайну ў абарону краіны? Як быць з карупцыяй і бясконцымі сваркамі ў межах некалькіх радаў БНР, якія не маглі дамовіцца нават паміж сабой (традыцыя, якую ўзялі на ўзбраенне сучасныя апазіцыянеры)?

Арыентавацца на міфы ў XXI стагоддзі — шлях у бездань. Калі мы забываемся пра сапраўдныя абставіны трагедыі 22 чэрвеня 1941 года, на жаль, існуе рызыка паўтарыць усё зноў: палітычны «саюзнік» акажацца не такім ужо і «саюзнікам», а генералы ў момант Х будуць «спаць у шапку», замест таго, каб біць ва ўсе званы. Калі мы забываемся пра хібы «шляхецкай дэмакратыі» ды рамантычную наіўнасць дзеячаў БНР, то рызыкуем яшчэ доўга блукаць у трох соснах у палітычным і нацыянальным плане.

Безумоўна, 22 чэрвеня — дзень смутку. Пры гэтым варта памятаць механізмы, а менавіта сталінскую палітыку, якая прывяла да гэтага дня. Варта памятаць таксама, што гэта дзень пачатку толькі аднаго з этапаў нашай нацыянальнай трагедыі ў XX стагоддзі, пошуг маланкі сярод доўгай цёмнай ночы, калі беларусы не былі гаспадарамі на сваёй зямлі. Сёння, маючы сваю дзяржаву, з усімі яе хібамі і бедамі, мы маем магчымасць крытычна азірнуцца назад, у мінулае, каб «22 чэрвеня» не паўтарылася ніколі зноў ужо пры нашым жыцці.

# Пераслед спынены

**Усе шасцёра актывістаў «Маладога фронту», якія фігуравалі ў распачатай па частцы 3 артыкула 293 справе, атрымалі паведамленні з Камітэта дзяржаўнай бяспекі аб спыненні крымінальнага пераследу з прычыны адсутнасці ў іх дзеяннях складу злачынства.**

Інфармацыю адносна сябе Праваабарончаму цэнтру «Вясна» пацвердзіў адзін з фігурантаў справы — Зміцер Крамянецкі. Ён, услед за паплечнікамі па МФ Зміцерам Дашкевічам, Сяргеем Пальчэўскім, Раманам Васільевым, паведаміў пра атрыманне адпаведнай паперы з КДБ. Апавяшчэнне пра спыненне крымінальнай справы падпісаў падпалкоўнік А.В. Грыб.

Аналагічная інфармацыя пацвердзілася адносна Уладзіміра Яроменкі і Арцёма Леўчанкі, якія разам з паплечнікамі 1 красавіка выйшлі з СІЗА-1 пад падпіску аб нявыездзе.

Зыходзячы з паведамленняў пра тых, з каго таксама знятыя ўсе абвінавачанні — Мікалая і Яна Міхальковых, Сяргея Кулініча, можна меркаваць, што крымінальны пераслед спыняецца ў дачыненні толькі да тых фігурантаў справы «аб падрыхтоўцы масавых беспарадкаў», якім не было прад'яўлена дадатковае абвінавачанне па артыкуле 287 КК «Стварэнне незаконнага ўзброенага фармавання».

Нагадаем, у СІЗА КДБ і СІЗА МУС пад вартай застаюцца 14 чалавек, затрыманых з прад'яўленнем абвінавачанняў у «падрыхтоўцы масавых беспарадкаў» на Дзень Волі 25 сакавіка ў Мінску.

**spring96.org**

# Суд не прыняў да разгляду справу Філіповіча

**17 ролікаў з канала Максіма Філіповіча ў Youtube і жывыя трансляцыі ў сацыяльных сетках сталі падставай для складання на гомельскага блогера пратакола і распачатай адміністрацыйнай справы ў дачыненні да яго.**

Але суд адмовіўся разглядаць матэрыялы справы. Пра гэта сам «абвінавачаны Філіповіч» даведаўся выпадкова.

«Я чакаў-чакаў, але ні папер ніякіх, ні ліста з суда — нічога няма. Ехаў учора дахаты і па дарозе вырашыў сам заехаць у суд, у канцылярыю. Там пацікавіўся, як мне можна даведацца, калі ў мяне суд? Яны нават пашпарт у мяне не бралі: жанчына паглядзела і кажа: «Вы ж Філіповіч? Ваша справа накіраваная на дапрацоўку», — распавёў блогер.

Па словах Філіповіча, юрысты і праваабаронцы кажуць, што такім чынам справа супраць яго будзе «замятая». Аднак ён сам на гэта не асабліва разлічвае. Кажа, што мясцовыя ўлады моцна на яго злыя і наўрад ці адмовяцца ад жадання стварыць яму непрыемнасці.

Нагадаем, гомельскага блогера Максіма Філіповіча мясцовыя міліцыянеры абвінавацілі ў тым, што «з улікам росту папулярнасці свайго тэлеканала, Філіповіч Максім Генадзевіч фактычна падмяняе сабой дзяржаўнае СМІ. У тым ліку, па фармаванні грамадскага меркавання сярод грамадзян Рэспублікі Беларусь». Яны фактычна сцвярджаюць, што Youtube — гэта сродак масавай інфармацыі, а блогер Філіповіч — журналіст гэтага СМІ.

**Паводле euroradio.fm**

# Здавайце кроў! Здавайце яе зараз!

Сяргей ПУЛЬША

**Гэтыя людзі — у грамадстве незаўважныя. Аднак за імі — не адно выратаванае жыццё. Яны — донары. 14 чэрвеня мы адзначылі Сусветны дзень донара крыві.**

Донарства крыві па-ранейшаму — адзін з самых значных фактараў развіцця высокатэхналагічнай медыцынскай дапамогі. Многія захады медыцынскай дапамогі заснаваныя на агрэсіўных умяшаннях у біялагічныя працэсы арганізма. І ў пераважнай колькасці выпадкаў такія метады маюць на ўвазе прыпыненне або падаўленне механізмаў крыватвору. Ва ўсіх гэтых сітуацыях у якасці замяшчальнай тэрапіі выкарыстоўваюцца выключна кампаненты донарскай крыві.

Таму праблема донарства крыві, яе кампанентаў, мае, без перабольшвання, паўсюдную значнасць і патрабуе пастаяннай увагі. Донарская кроў, па сутнасці, ва ўсім свеце разглядаецца як стратэгічны, адзін з найбольш важных рэсурсаў.

Ніхто не ведае, што здарыцца заўтра. Катастрофы, канфлікты, тэракты — адным з наступстваў гэтых падзей амаль заўсёды з'яўляецца недахоп крыві.

Нельга казаць, што ў краіне крыві не хапае. Паводле рэкамендацый СААЗ для нацыянальных службаў аховы здароўя, у краіне павінна быць 20 літраў назапашанай крыві на 1000 жыхароў. У нас рэкамендаваны паказчык перавышаны — на сёння назапашанай крыві 23,2 літра на 1000 насельніцтва.

Між тым, усе ведаюць, што кроў бывае розная: групы крыві, рэзус-фактар. І невядома, што спатрэбіцца ў гэты ці наступны раз. Можа стацца так, што адной крыві будзе лішак, а вось «рэдкай» можа і не хапіць. Таму пастаяннае донарства называюць неад'емным элементам нацыянальнай бяспекі любога сучаснага грамадства.

Па стане на 1 студзеня 2017 года ў краіне налічваецца каля 85 тысяч донараў суцэльнай крыві і 11 тысяч донараў кампанентаў крыві. Арганізацыямі пераліванняў крыві краіны штогод збіраецца больш за 200 тысяч літраў донарскай крыві і 100 тысяч літраў плазмы крыві чалавека. Але гэта не азначае, што трэба супакоіцца і больш кроў не здаваць.

З 2013 года сістэма аховы здароўя Беларусі скіраваная на адраджэнне добраахвотнага бязвыплатнага донарства. З таго часу колькасць бязвыплатных данацый крыві павялічылася ў 8 разоў — з 2818 у 2013 годзе да 22196 у 2016. У 2017 годзе ўжо кожная пятая данацыя крыві — гэта данацыя на бязвыплатнай аснове.

І гэта вельмі важна, таму што, як паказвае практыка, менавіта добраахвотная бязвыплатная здача крыві і яе кампанентаў адзначаецца значна больш нізкімі паказчыкамі наяўнасці інфекцый, якія могуць перадавацца пры пераліванні крыві.

Сёння медыкі выказваюць велізарную ўдзячнасць і падзяку ўсім добраахвотным бязвыплатным донарам крыві, яе кампанентаў. Ваш асабісты ўдзел у донарскім руху з'яўляецца яркім выразам гуманізму і дабрыні, патрыятызму і глыбокага разумення сучасных праблем грамадства.

Дэвіз Сусветнага дня донара крыві 2017 года — «Чым вы можаце дапамагчы? Здавайце кроў. Здавайце яе зараз. Здавайце яе часта». Але тычыцца гэта не толькі сённяшняга, а кожнага дня.

# Поўны знос!

**Спрэчкі пра далейшы лёс Асмалоўкі (двух малапавярховых кварталаў у раёне Опернага тэатра) вядуцца не першы год.**

Архітэктары, грамадскія актывісты і мясцовыя жыхары прапаноўвалі розныя варыянты развіцця гэтай тэрыторыі: ад поўнага зносу да захавання ўсіх дамоў.

Нядаўна нават ставілася пытанне аб наданні раёну статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці. І вось архітэктары «Мінскграда» па замове Камітэта архітэктуры і горадабудаўніцтва Мінгарвыканкама распрацавалі праект дэталёвага планавання Асмалоўкі. Да жалю абаронцаў архітэктурнай спадчыны, на знос асуджаная ўся старая забудова.

Аб правядзенні грамадскага абмеркавання забудовы Асмалоўкі абвясціла адміністрацыя Цэнтральнага раёна Мінска. Як становіцца зразумела з дэталёвага плана, усе старыя двухпавярховыя дамы ў раёне вуліц Багдановіча — Кісялёва — Куйбышава — Камуністычнай падлягаюць зносу. Замест іх з'явяцца новыя жылыя дамы вышынёй 5–6 паверхаў з убudаванымі памяшканнямі гандлёва-бытавога прызначэння з падземнымі аўтастаянкамі.

Праз абодва квартала працягнецца крытая грамадска-гандлёвая вуліца з падземнымі аўтастаянкамі (пасаж «Старажоўскі»). Акрамя гэтага, архітэктары прапануюць размясціць у Асмалоўцы два дзіцячыя садкі — на 50 і на 70 месцаў.

Праект таксама закранае суседні квартал у межах вуліц Багдановіча — Кісялёва — Старавіленскай — Камуністычнай. Там хочуць пабудаваць 9–12-павярховы жылы дом і 4–5-павярховы офісны будынак.

Праект будзе рэалізаваны ў два этапы.

— Канцэпцыя, прапанаваная выканкамам, на наш погляд, цалкам не стваральная ў рамках развіцця горада і агульнасусветных тэндэнцый у архітэктуры. Мы яе не падтрымліваем і будзем рабіць для захавання раёна ўсё, што нам дазваляе закон і палажэнне аб правядзенні грамадскага абмеркавання, — распавёў Андрэй Новік, прадстаўнік ініцыятыўнай групы жыхароў Асмалоўкі. — Тое, што людзі не хочуць выязджаць з раёна, — даўно вядома. Мы шмат разоў збіралі подпісы. І справа не толькі ў жаданні жыхароў застацца тут. На нашу думку, раён важна захаваць як прыклад комплекснай пасляваеннай квартальнай забудовы.

Грамадскае абмеркаванне гэтага праекта пройдзе з 23 чэрвеня па 17 ліпеня 2017 года. Прэзентацыя адбудзецца 26 чэрвеня ў 18:30 у будынку адміністрацыі Цэнтральнага раёна (вул. Мельнікайтэ, 6).

**Паводле realt.onliner.by**

# Ці трэба пашыраць базу «Рудакова»?

**На возеры Рудакова збіраюцца пашыраць базу адпачынку. Якім будзе яе ўплыў на прыроду? Чыноўнікі лічаць, што парушэнняў рэжыму нацпарка няма.**

Базу адпачынку пачалі эксплуатаваць яшчэ ў 1968 годзе, і з таго моманту яе не рэканструявалі. Як удалося даведацца «Зялёнаму парталу» ў Мядзельскай раённай інспекцыі аховы прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, «Рудакова» не функцыянавала каля 10 гадоў. Частку аб'ектаў ужо дэмантавалі. Сёння землекарыстальнікам дадзенай тэрыторыі з'яўляецца ТАА «Шантэр», якое плануе правесці на ёй шэраг работ, звязаных з аднаўленнем базы адпачынку. Менавіта ў гэтай сувязі Мядзельскі райвыканкам правёў абмеркаванне антрапагеннай нагрузкі.

Згодна з праектам, на тэрыторыі базы плануецца ўзвядзенне катэджнай забудовы, прадугледжаны аб'екты для забеспячэння адпачынку, такія як: спартыўна-аздараўляльны комплекс, рэстаран, тэнісныя корты, а таксама ўздоўж берага возера «Рыбацкая хаціна» з месцам пад барбекю, караоке-бар, лазня і пірсы.

Па словах юрыста грамадскага аб'яднання «Экадом» Рыгора Фёдарава, ацэнка была праведзена на стадыі абгрунтавання інвестыцый. Гэта значыць, што праект патэнцыйна можа змяніцца да моманту рэалізацыі. Так, напрыклад, было з праектам «Выдача магутнасцяў АЭС і сувязь з энергасістэмай».

У сваю чаргу, заказчык зазначыў, што аднаўленне базы не прывядзе да негатыўных наступстваў для наваколля. Гэтыя словы пацвярджаюць і ў райінспекцыі, адзначаючы толькі станоўчыя моманты для Нарачанскага краю.

«Усе гэтыя гады частка тэрыторыі, адведзеная пад базу адпачынку, знаходзілася ў рэкрэацыйнай зоне нацыянальнага парка «Нарачанскі». Нічога не супярэчыць размяшчэнню такіх аб'ектаў. Такім чынам, парушэнняў рэжыму нацпарка не існуе», — зазначыў Валерый Люштык, намеснік кіраўніка па навуковай працы нацыянальнага парка «Нарачанскі».

Аднак з улікам, што новая база «Рудакова» будзе ўяўляць з сябе кластэр з мноствам аб'ектаў унутры, мясцовых жыхароў усхвалявала павелічэнне колькасці турыстаў. Спецыяліст з нацпарка запэўнівае, што Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя правяло ацэнку антрапагеннай нагрузкі згодна з усталяванымі ў краіне нормамі.

**Паводле greenbelarus.info**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Кітай, наперад?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Мы ўжо неаднаразова папярэджвалі пра палітыку Кітая ў адносінах да замежных інвестыцый і небяспеку гэтай палітыкі для Беларусі. Аднак пакуль што нам вельмі патрэбныя грошы.**



Фота www.ancient-east.ru

Дзяніс Лаўнікевіч не так даўно пісаў пра кітайскую экспансію ў Афрыку, дзе зямлёй валодаюць кітайцы, працуюць кітайцы, і пасля іх застаюцца спустошаныя землі. Падаецца, нешта падобнае зараз спрабуюць правярнуць у Беларусі. Падавалася б, ёсць у нас дамоўленасці на экспарт «малочкі» ў Паднябесную, чаго яшчэ?

На тыдні прыйшла навіна пра тое, што кітайская кампанія «DRex Food Group» хоча ўзяць у арэнду ў Беларусі 20 тысяч гектараў зямлі. На ёй яна плануе пабудаваць малочнатаварныя комплексы. Агульнае пагалоўе жывёлы павінна скласці 40 тысяч галоў — распавёў міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі Леанід Заяц.

Беларускія чыноўнікі паспяшаліся і ўжо прапанавалі кітайцам на разгляд пляцоўкі на ўсходзе Магілёўскай вобласці — у Клімавіцкім і Чавускім раёнах. БЕЛТА піша, што кіраўнікі буйных кітайскіх кампаній «DRex Food Group» і «Xinrongji Holding Group» наведалі нашу краіну з рабочым візітам. Яны сцвярджаюць, што могуць інвеставаць у мадэрнізацыю існуючых прадпрыемстваў у Беларусі і ў пабудову новых 1 мільярд долараў. А калі праект будзе паспяховым, інвестыцыі абяцаюць павялічыць.

Падавалася б, навошта? У нас і так гэтых малочнатаварных комплексаў — як бруду. Ужо гадоў дзесяць грамадскасць змагаецца з так званым «свінакомплексам Чыжа» ў Пяршаях (на 110 тысяч галоў). Нядаўна прытармазілі аналагічныя аб'екты пад Маладзечна (100 тысяч галоў). Мяса ў нас хапае, каб і самім есці, і прадаваць на экспарт.

Аднак не. Патрэбныя яшчэ і кітайскія аб'екты. Навошта?

Больш за тое, з'явіліся звесткі і пра тое, што тая ж «DRex Food Group» мае намер набыць асноўны пакет акцый гаротнага банка «Масква–Мінск». Гэты банк пазбег банкруцтва, перайшоўшы пад кіраванне Нацбанка. Але галоўнаму рэгулятару ён — пятае кола ў вазку. НБРБ і ўрад шукалі для яго стратэгічных інвестараў, бо падпісалі мемарандум з ЕБРР, які прадугледжвае продаж «Масквы–Мінска» да 2020 года.

Кіраўніца беларускага кірунку «DRex Food Group» Зоя Кавалёва паведаміла, што кітайская кампанія хоча «набыць акцыі банка — ці цалкам выкупіць, ці набыць нейкую долю, але не мінарытарны пакет, а асноўны пакет акцый».

Падчас перамоваў прэзідэнт кампаніі «Xinrongji Holding Group» Нянь Юнан сказаў: «Мы хочам стварыць у Беларусі дзве кампаніі, адна з якіх будзе інвестыцыйнай. Гэтая кампанія будзе займацца інвеставаннем у Беларусь, у тым ліку ў банкаўскую сферу дзейнасці вашай краіны».

Такім чынам, кітайскі банк «Масква–Мінск» будзе інвеставаць у кітайскія жывёлагадоўчыя комплексы, дзе працаваць будуць, як звычайна, кітайцы, і прадукцыя будзе ісці ў Кітай. А што атрымлівае з гэтага Беларусь? Цяжка сказаць, але страчвае яна і банк, і 20 тысяч гектараў зямлі.

Што ж да «інвестыцый у 1 мільярд долараў, а можа і больш», то гэта — казкі дзецям на ноч. Справа ў тым, што ў «DRex Food Group» проста няма такіх грошай. Як паведамляецца, мільярд долараў — гэта чысты прыбытак кітайскай кампаніі за 2015 год. Хто-небудзь верыць у тое, што абсалютна ўвесь гэты прыбытак будзе інвеставаны ў Сінявокую?

Выбачайце, але лепш прадаваць Кітаю беларускае малако і мяса, чым ствараць тут кітайскую вытворчасць. Мы павінны дбаць пра свае інтарэсы, а не пра кітайскія.

Тым больш, што зараз у нас ёсць іншыя, больш прывабныя інвестары. Напрыклад, украінскі мільярдэр Юрый Касюк мае намер стварыць канкурэнцыю сусветнаму брэнду KFC і адкрыць у Беларусі 20 рэстарацый «Крылы». Гендырэктар «Крылаў» Аляксей Папоў паведаміў, што дамова па франчайзінг у Беларусі — на стадыі падпісання. У выпадку поспеху ў гэтай справе рэстарацыі адкрыюцца ўжо ў гэтым годзе.

«Forbes» у 2017 годзе ацаніў багацце Касюка ў 1,2 мільярда долараў — вышэй за кітайцаў.

Адначасна Мінскі аўтазавод выйграў тэндэр на пастаўку ста аўтобусаў ва Украіну. У тэндэры, праведзеным «Киевпасстрансом», мінчане перамаглі за кошт больш нізкай цаны. Аўтобусы абыдуцца Кіеву ў суму больш за 20 мільёнаў долараў.

Прыносіць свае вынікі і барацьба з карупцыяй ва Украіне. Антыманапольны камітэт Украіны прызнаў, што «Дарожна-будаўнічы трэст №4» (Брэст) быў дыскрэдытаваны ў таргах на будаўніцтва дарогі ў Валынскай вобласці, а іх пераможца атрымаў гэта права «незаконна».

Ці будзе праведзены тэндэр зноў і ці прыме ў ім зноў удзел беларускі бок, пакуль не вядома. Але ў любым выпадку ў беларусаў дастаткова высокія шанцы на перамогу ў гэтым і іншых аналагічных таргах. Справа ў тым, што ў студзені 2017 года створана сумесная кампанія «Белаўтадар — Украіна». У яе ўваходзяць тры дарожна-будаўнічыя трэсты дзяржаўнага холдынгу «Белаўтадар» (брэсцкі ДСТ №4, гомельскі ДСТ №2 і гродзенскі ДСТ №6) і Кіраўніцтва справамі Адміністрацыі прэзідэнта. Гэты пул спрабуе зараз атрымаць падрады па рамонце і будаўніцтву дарог акрамя Валынскай яшчэ ў Жытомірскай і Запарожскай абласцях.

Апроч замежных інвестыцый улады нарэшце зацікавіліся і ўнутранымі. Напрыклад, прадпрымальнікі ў Мінску не вельмі хочуць набываць свабодныя памяшканні, якія размяшчаюцца на цокальным паверсе і налічваюць да 100 кв. м. За 5 месяцаў гэтага года так і не знайшлі сваіх новых гаспадароў 1148 памяшканняў агульнай плошчай больш за 150 тысяч «квадратаў». А таму, як, распавяла начальнік упраўлення па распараджэнні і выкарыстанні дзяржмаёмасці і кантролю Мінскага гарадскога тэрытарыяльнага фонду дзяржаўнай маёмасці Галіна Арціменя, некаторыя з іх вырашана прапанаваць прадпрымальнікам для адкрыцця новага і для развіцця ўжо існуючага бізнесу абсалютна бясплатна.

Згодна з пастановай Саўміна № 590, калі такое памяшканне не прадаецца з аўкцыёну ці не здаецца ў арэнду цягам 60 каляндарных дзён, яно перадаецца ў бязвыплатнае карыстанне пад афармленыя дагаворам абавязацельствы па стварэнні рабочых месцаў. Прычым заяўніку не можа быць адмоўлена ў перадачы нерухомасці. Па сутнасці, адзіны крытэр — парадак чарговасці прапаноў.

То бок, прадпрымальнікам будзе прасцей атрымаць офіс, што для іх, безумоўна, плюс.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Міраслаў Лазоўскі

**Галоўны фігурант «справы патрыётаў» можа аказацца зусім не галоўным.**

А сама «справа патрыётаў» можа і не дайсці да суда. Прынамсі, пра суд казаць заўчасна, лічыць старшыня КДБ Беларусі Валер Вакульчык.

Адказваючы на пытанні журналістаў у кулуарах Палаты прадстаўнікоў, Вакульчык адзначыў, што абвінавачанні яе фігурантам выстаўлены «сур'ёзныя». Але «па кім не было доказаў, хто невінаваты, па тых пераслед спынены».

Наконт Лазоўскага старшыня КДБ выказаў меркаванне, што не варта называць Міраслава лідарам арганізацыі: «Мы цяпер разбіраемся, хто там быў лідар, хто выканаўца. Таму я не буду называць Лазоўскага галоўным».

У выказваннях Вакульчык быў на дзіва не катэгарычны. «Гэта група людзей, ёсць там арганізаванасць? Ёсць. Узброенасць? Ёсць. 287 артыкул — гэта не палітычны артыкул, а экстрэмізм. У следчых установах аб'ектыўна разабрацца. Я ведаю болей, але не магу сказаць. Я прыхільнік, каб на ўсе пытанні былі адказы. Заўчасна нельга казаць, што яны злачынцы. Калі ў следчага ці ў мяне, як кіраўніка, ёсць нават нейкая перакананасць, то гэтага не дастаткова — павінны быць вычарпальныя доказы віны», — сказаў Вакульчык.

Гэтая рыторыка істотна адрозніваецца ад прапагандысцкіх заяваў БТ і заяваў па іншых палітызаваных справах. Што дае надзею на вызваленне патрыётаў без судовага пераследу.



## Ігар Бузоўскі

**Экс-кіраўнік БРСМ, былы галоўны ідэолаг Беларусі, а цяпер кіраўнік адміністрацыі Цэнтральнага раёна Мінска раптам стаў прыхільнікам мяккай беларусізацыі.**

Пасля адкрыцця арт-аб'ектаў на плошчы Свабоды ў размове з журналістамі Бузоўскі зазначыў, што трэба рабіць усё, каб беларуская мова жыла на побытавым узроўні. «Нельга яе саромецца. Што трэба рабіць? Перш за ўсё, гэта школа. Па-другое, тое, што сёння ўжо робіцца, пачынаючы з экскурсій і нават афармлення вуліц. Тыя ж касы па-беларуску... Калі недзе сёння нейкая вулічная таблічка за старасцю здымаецца, то новая ўжо вешаецца па-беларуску. Гэта будзе жыць пры патрэбе з боку грамадства і пры ўмове падтрымкі дзяржавы». І, паводле Бузоўскага, справаводства пакрысе пераходзіць на беларускую мову.

Што да стаўлення да нацыянальных сімвалаў, то «калі гэта выкарыстоўваецца для прасоўвання нацыянальных каштоўнасцяў — то станоўча. Калі гэта палітызуецца, то адмоўна. Гэта наш культурны здабытак — і «Пагоня», і бел-чырвона-белы сцяг. Але не трэба іх палітызаваць. Мы павінны ведаць, што гэта, адкуль, дзе і як выкарыстоўвалася», — сказаў Бузоўскі.



## Вікторыя Азаранка

**Наша зорка тэнісу выбыла з сусветнага рэйтынгу Жаночай тэніснай асацыяцыі.**

Леташнія балы Азаранкі згарэлі пасля завяршэння «Ралан Гарос». Таму з панядзелка, 12 чэрвеня, яе імя няма ў гэтым рэйтынгу. Узначальвае спіс немка Ангеліка Кербер. На другім месцы — Сымона Халеп з Румыніі. Трэцюю пазіцыю займае чэшка Караліна Плішкава, а вось Серэна Уільямс апынулася толькі на чацвёртым месцы. Каралін Вазняцкі толькі на сёмай пазіцыі, у лідарах няма і Марыі Шарапавай. Аляксандра Сасновіч займае 90-е месца, а Вольга Гаварцова — 137-е.

Але хутка ўсё зменіцца. Азаранка не выступала, бо стала мамай у снежні 2016 года. Зараз яна плануе пачаць турніры, першы з іх — у іспанскай Мальёрцы, які стартуе 18 чэрвеня. Гэтыя спаборніцтвы стануць для Вікторыі праверкай сіл перад Уімблдонскім турнірам, які пройдзе з 3 па 16 ліпеня.

Раней яна планавала вярнуцца ў прафесійны тур на спаборніцтвах у амерыканскім Стэнфардзе, якія пройдуць з 31 ліпеня па 6 жніўня, але добрыя паказчыкі падчас трэніровак дазволяць ёй увайсці ў форму раней.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Дзве дарогі ў адно месца

**Так званыя «знешнія фактары» аднолькава настойліва грукаюцца ў дзверы алігархічнага капіталізму ў Расіі і рынкавага сацыялізму ў Беларусі**




За першы квартал беларуская эканоміка вырасла на 0,3%, расійская — на 0,5%. Вось такі рашучы і сінхронны выхад з рэцэсіі — Саюзная дзяржава, аднак. Разам каціліся ў крызіс, разам з яго і выкарабкваемся пад уплывам ваганняў цаны на нафту. Хоць да ранейшых цанавых пікаў чорнаму золату далёка, за год нафта маркі Urals падаражэла прыкладна ў 1,5 разы: у студзені-красавіку 2017 года яна каштавала ў сярэднім каля 54 долараў за барэль супраць 34 у мінулым годзе.

Адпаведна, на 23,5% павялічыўся беларускі экспарт. Асноўны ўклад у такі фантастычны вынік унеслі цэны. Яны павысіліся на 21,5%, у той час як у натуральным выразе экспарт тавараў вырас на сціплыя 1,6%.

## Мы ішлі, ішлі...

З тым, што беларусы і рускія з'яўляюцца дзвюма галінамі аднаго народа, згодныя каля 70% суайчыннікаў. На працягу многіх гадоў гэтую ісціну пацвярджалі сацыёлагі НІСЭПД. Тым не менш у пачатку 1990-х гадоў кожная «галіна» пайшла сваёй дарогай да рынку і дэмакратыі.

На думку адзінага палітыка (АП), якую ён падрабязна выклаў у сакавіку 2003 года на ідэалагічным семінары, Расія адмовілася ад ролі лідара ўсходнееўразійскай цывілізацыі. «Дый у тэхналагічным, эканамічным плане яна не можа лічыцца для нас прыкладам. Справа ў тым, што вартасць, багацце Расіі — яе нетры — адчужаныя ад народа і сталі крыніцай яе бедаў як у матэрыяльнай, так і ў духоўнай сферы», — канстатаваў АП.

Палітычная эліта «старэйшага брата», што падсілкоўваецца сыравіннымі алігархамі, зарыентавала краіну на неаліберальныя каштоўнасці, спіс якіх адкрывае яскрава выражаны індывідуалізм і бездухоўнасць. Цікава, як бы на падобныя адкрыцці адрэагавалі расіяне, якія паўсталі пасля «Крымнаш» з каленяў? Чый узровень духоўнасці сёння вышэйшы?

Аднак я адышоў ад тэмы. У пачатку 1990-х гадоў Расія абрала шлях бандыцкага капіталізму. Вынік вядомы — жахлівая карупцыя, жорсткая ломка ўсіх сацыяльных асноў, што каткам праехалася па лёсах мільёнаў людзей. Беларускі шлях — гэта шлях паступовых пераўтварэнняў «ад жыцця». Прамежкавым вынікам пры руху па гэтым шляху стала сацыяльная мадэль, здольная надзейна абараніць простага грамадзяніна.

«Мы будавалі, будавалі і нарэшце пабудавалі. Ура!» Аўтар гэтага афарызму — Чабурашка. Але калі аптымізм мультыплікацыйнага персанажа пераносці на беларускую эканамічную рэальнасць, дык слова «будавалі» варта было б замяніць на слова «ішлі». Наколькі пры гэтым гарманічна глядзеўся б выклічнік «Ура!» — пытанне спрэчнае.

Колькі людзей — столькі меркаванняў. Таму абмяжуюся меркаваннем АП, якое ён выказаў у Пасланні–2017: «Я ўжо казаў: іншага такога года не будзе, мы знаходзімся каля небяспечнай рысы, пераступіць якую не можам. Не зробім хоць бы паўкроку наперад — баюся нават казаць, што можа адбыцца».

Мы ішлі, ішлі і нарэшце прыйшлі. Ура!

## Будучыня надыдзе для ўсіх

«Небяспечная рыса», «Узбочына гісторыі» — гэта далёка не поўны пералік магчымых назваў станцый, да якіх мы дайшлі пад кіраўніцтвам АП, і — што важна — сам АП гэтыя назвы і прапанаваў.

Асабіста я для апісання сучаснага стану беларускай мадэлі аддаваў бы перавагу выкарыстанню вобразу гістарычнага вазка, з якога мы вывальваемся (вываліліся). Аднак днямі, пасля знаёмства ў інтэрнэце з лекцыяй палітолага Кацярыны Шульман, я быў вымушаны скарэктаваць свае ўяўленні. І справа не ў тым, што гістарычны вазок мне давялося замяніць на цягнік. З гэтай заменай я лёгка змірыўся. Значна важней — тэзіс аб прынцыповай немагчымасці з цягніка сысці.

Усе народы, сцвярджае Шульман, едуць у адным цягніку. Будучыня наступіць для ўсіх. Яе не пазбегнуць. Адрозненне толькі ў месцах: камусьці дасталася бакоўка каля прыбіральні, хтосьці едзе ў СВ (спальным вагоне).

Чацвёртай прамысловай рэвалюцыі з яе пераходам ад пятага тэхналагічнага ўкладу да шостага ніхто не зможа пазбегнуць. Вось толькі рабатызацыя вытворчасці, штучны інтэлект і іншыя навукова-тэхнічныя прыбамбасы, што падвысяць узровень жыццёвага камфорту для адных, іншых паставяць на мяжу фізічнага выжывання.

Праілюструю на прыкладзе. У верасні 2016 года нямецкая фармацэўтычная кампанія «Bayer» набыла найбуйнейшага амерыканскага вытворцу насення — кампанію «Monsanto» за $ 66 мільярдаў (кошт «Газпрома»).

У пачатку 1980-х гадоў навукоўцы «Monsanto» аднымі з першых здолелі мадыфікаваць гены расліны і з тых часоў працягваюць развіваць тэхналогіі, якія дазваляюць сельскагаспадарчым культурам даваць большы ўраджай, патрабаваць менш пестыцыдаў і скарачаць эрозію глебаў.

Адзін з самых прыбытковых праектаў «Monsanto» — вытворчасць двух прадуктаў: гербіцыду гліфасат і генетычна мадыфікаванага насення, устойлівага да гліфасату, што дае магчымасць фермерам выкарыстоўваць хімікат, які гарантавана забівае пустазелле, але не кранае карысныя культуры.

Можна быць ідэйным праціўнікам ГМА (генетычна мадыфікаваных арганізмаў). Сілком вырошчваць іх, а тым больш ужываць у ежу, ніхто не прымушае, але будучыня наступіць для ўсіх. Для новай транснацыянальнай кампаніі старт у будучыню пачынаецца з кантролю над 30% сусветнага ўраджаю. Нескладана здагадацца, якой яна апынецца для прыхільнікаў савецкіх ГОСТ.

Яшчэ адзін прыклад. 13 мая Уладзімір Пуцін падпісаў Стратэгію эканамічнай бяспекі Расіі на перыяд да 2030 года. У дакуменце пералічаныя 25 пагроз і выклікаў. Сярод іх «імкненне развітых дзяржаў выкарыстоўваць свае перавагі ва ўзроўні развіцця эканомікі, высокіх тэхналогій... у якасці інструмента глабальнай канкурэнцыі». Вось такія яны, развітыя краіны, вынаходзяць тэхналогіі, каб замацаваць за сабой правы ехаць у СВ ды выштурхаць астатніх на бакоўкі каля прыбіральні.

## Хто дзе кульгае

Так званыя «знешнія фактары» аднолькава настойліва грукаюцца ў дзверы алігархічнага капіталізму ў Расіі і рынкавага сацыялізму ў Беларусі. Знайсці адказы на сучасныя выклікі за кошт павышэння канкурэнтаздольнасці нацыянальных эканомік нешта не атрымліваецца. (Ад сябе дадам: і не атрымаецца, бо немагчыма без павышэння ўзроўню ўнутранай канкурэнцыі дамагацца знешняга поспеху).

11 мая АП сустрэўся з губернатарам Растоўскай вобласці. Цытую паводле афіцыйнага прэс-рэлізу: «Аляксандр Лукашэнка перакананы, што беларускім і расійскім прадпрыемствам трэба не канкураваць, а дзейнічаць на агульным рынку па-партнёрску. «Калі мы вырабляем камбайны ў Гомелі, і «Ростсельмаш» іх вырабляе, трэба разумець, што мы павінны як партнёры дамовіцца. Гэта наш агульны рынак. Ціснуць адзін на аднаго не трэба. Калі «Ростсельмаш» не бачыць магчымасці дамовіцца, што нам застаецца рабіць... Канкураваць не толькі на нашых рынках, але і за іх межамі».

З МАЗам і КамАЗам — аналагічная гісторыя: «Адзін кульгае ў Беларусі, і другі абы-як працуе. Вось да чаго прывяла гэтая канкурэнцыя. Я ўжо не кажу пра замежжа».

Цікава, а да чаго прывяла канкурэнцыя аўтамабільных канцэрнаў у Германіі? Я не аўтамабіліст, тым не менш здольны па лагатыпе адрозніць «Мерседэс» ад БМВ, «Аўдзі» ад «Фольксвагена». У 2016 годзе продажы чатырох самых папулярных марак нямецкіх легкавых аўтамабіляў склалі 12,7 мільёна.

Супрацоўніцтва прадуктыўнае на ўзроўні блізкага кола (сябры, сям'я). Калі дзеці пачнуць канкураваць за ўвагу бацькоў — нічым добрым гэта не скончыцца. Але ў далёкім коле, у якім адносіны паміж людзьмі выбудоўваюцца на падставе фармальных правілаў, а не асабістых знаёмстваў, канкурэнцыя больш эфектыўная за супрацоўніцтва. Гэта падставовая ісціна!

## Праблема рэйтынгу

Што ў такіх умовах застаецца рабіць кіраўнікам дзяржаў, якія гібеюць на бакоўках каля прыбіральні? Адказ на гэтае пытанне — не таямніца. Неабходна пераключыць увагу насельніцтва з унутраных праблем на знешнія.

Паводле аб'ектыўных прычын, Пуціну гэта пераключэнне здзейсніць прасцей, чым яго беларускаму калегу. «У Расіі, — тлумачыць журналіст Сямён Навапрудны, — ёсць тое, чаго няма ў Беларусі, — фундаментальны і імперскі комплекс, які ляжыць у аснове рэчаіснасці: мы — вялікая дзяржава, а вакол ворагі, аднак мы можам адпомсціць у любым куточку свету. Таму, калі глядзіш расійскае тэлебачанне, бачыш, што расіяне жывуць не ў Расіі, а заклапочаныя праблемамі Украіны, Сірыі, Захаду. Гэта такая прыдумка — эвакуяваць расіян з краіны, каб не паказваць падзенне даходаў, эканамічны тупік».

Г.зн. Пуцін мае магчымасць не толькі дамагацца згуртавання расіян «вакол сцяга», палохаючы знешняй пагрозай, але і дэманстрацыяй ваеннай моцы, выклікаць масавы рост пачуцця ўласнай значнасці і адчування велічы Расіі, якая адраджаецца (паводле красавіцкага апытання ВЦИОМ, 86% грамадзян РФ лічаць, што Расія з'яўляецца ўплывовай дзяржавай на сусветнай арэне).

У арсенале АП толькі «жахалкі». Адсюль праблема рэйтынгу. У АП яго сувязь з дынамікай даходаў насельніцтва істотна вышэйшая, чым у Пуціна. Таму не варта здзіўляцца чарговаму патрабаванню павысіць сярэдні заробак беларусаў да 500 долараў.

Уладзімір ВАЛОДЗІН

# Водгулле гучнага перайменавання:
## Раман Шухевіч і Беларусь

**Перайменаванне праспекта генерала Ватуціна ў Кіеве ў праспект імя Рамана Шухевіча выклікала гучную рэакцыю ў свеце, у тым ліку ў беларускіх СМІ. Што думаюць на гэты конт украінскія гісторыкі? На пытанні «Новага Часу» адказвае Юрый Радчанка, кандыдат гістарычных навук, дырэктар Цэнтра вывучэння міжэтнічных стасункаў Усходняй Еўропы (Харкаў).**





Юрый Радчанка

***— Хто быў асноўным палітычным актарам у перайменаванні праспекта?***

— Фармальна, рашэнне было прынятае Кіеўскай гарадской радай. Але відавочна, што гэта наступства палітыкі Украінскага інстытута нацыянальнай памяці на чале з Уладзімірам Вятровічам. Я не ўпэўнены нават, што большасць з 69 дэпутатаў, якія галасавалі за гэтае рашэнне, маюць уяўленне, кім быў Шухевіч. Думаю, калі спытаць іх пра базавыя моманты ў яго біяграфіі, яны не адкажуць.

***— Перайменаванне выклікала негатыўную рэакцыю ў сусветнай грамадскасці, найперш, у Ізраілі. Чаму?***

— Наконт асабістага стаўлення Шухевіча да яўрэяў сведчанняў мала. Але калі мы паглядзім на АУН як цэлае, то на ўзроўні арганізацыі стаўленне да яўрэяў горшала. Калі з 1929 па 1933 гады былі пэўныя «ўнутрыпартыйныя» дыскусіі (супрацоўнічаць з яўрэямі ці не), то з 1933–1935 гадоў антысеміцкія тэндэнцыі ў АУН узмацняліся, і да 1941 года антысемітызм у АУН быў дастаткова моцны. Няма сведчанняў пра погляды Шухевіча на «яўрэйскае пытанне» ў 1930-я гады, але вядомы шэраг дакументаў 1941 года. Перад нападам на СССР АУН (Бандэры) склала інструкцыі, што рабіць у выпадку «Украінскай нацыянальнай рэвалюцыі» і ў выпадку вайны. Адна з інструкцый, напісаная ў маі 1941-га, называецца «Боротьба та діяльність ОУН під час війни». Там кажацца, што яўрэйскія і польскія актывістаў трэба ізаляваць і максімальна кантраляваць, і пры першым падазрэнні гэтых людзей ліквідаваць. Ёсць верагоднасць, што ў напісанні дакумента прымаў удзел і Раман Шухевіч, але, на жаль, канкрэтныя яго аўтары нам не вядомыя.

***— Як праявіў сябе Шухевіч падчас службы ў батальёне «Нахтыгаль»?***

— У «Нахтыгалі» ў большасці служылі чальцы АУН(б). Ёсць мемуарнае сведчанне аднаго з іх, Міраслава Кальбы, што Шухевіч казаў сваім аднапартыйцам з батальёна: «Не бярыце нічыёй крыві на рукі. Не дапускайце ніякіх злачынстваў ці помсты ў дачыненні да ворагаў, палякаў ці жыдоў. Займацца гэтым — не нашая справа». З аднаго боку, нібыта Шухевіч супраць гвалту, а з іншага — лічыў яўрэяў і палякаў калектыўнымі ворагамі ўкраінскага народа. І «ворагамі» павінны былі займацца іншыя — служба бяспекі АУН і міліцыя.

У Львове, куды ў пачатку вайны ўступіў «Нахтыгаль», з 30 чэрвеня па 3–4 ліпеня прайшоў крывавы пагром яўрэйскага насельніцтва, загінула некалькі соцень чалавек. Падчас пагрому жаўнеры «Нахтыгаля» былі ў адпачынку. Сам Шухевіч у гэты час займаўся пахаваннем брата Юрыя, труп якога быў знойдзены ў адной з турмаў Львова, і нават не прымаў удзелу ў мерапрыемствах 30 чэрвеня, калі АУН(б) абвясціла ў Львове аднаўленне ўкраінскай дзяржаўнасці. Сучасныя дадзеныя паказваюць, што асобныя салдаты «Нахтыгаля» маглі прымаць удзел у пагроме, але гэта не было мэтанакіраваным удзелам падраздзялення.

З іншага боку, у дзённіку аднаго з салдат батальёна Віктара Харківа («Хмары») запісана, што на шляху батальёна ў Вінніцу яго салдаты бачылі злачынствы «жыдабальшавікоў» (відаць, маюцца на ўвазе турмы, у якіх перад адступленнем НКУС расстрэльваў зняволеных). Каб адпомсціць, салдаты «Нахтыгаля» расстрэльвалі яўрэяў: «Падчас нашага пераходу мы на сваe вочы бачылі ахвяр яўрэйска-бальшавіцкага тэрору, гэты від так умацаваў нянавісць нашую да яўрэяў, што ў двух сёлах мы пастралялі ўсіх сустрэчных яўрэяў. Узгадваю адзін эпізод. Падчас нашага пераходу перад адным з сёл бачым мноства людзей, якія блукаюць. На пытанне адказваюць, што яўрэі пагражаюць ім і яны баяцца спаць у хатах. У выніку гэтага мы пастралялі ўсіх яўрэяў, якія там сустрэліся». То бок яны атаясамлівалі яўрэяў з бальшавікамі і калектыўна яўрэям помсцілі.




***— У чым палягалі задачы 201-га батальёна, які дыслакаваўся ў Беларусі і ў якім служыў Шухевіч?***

— «Нахтыгаль» ды іншае падраздзяленне — «Роланд» — былі перафармаваныя ў 201-ы шуцманшафт-батальён і перакінутыя ў Беларусь у раён Лепель–Магілёў для барацьбы з «савецкімі партызанамі», дзе знаходзіліся з сакавіка да снежня 1942 года. Нямецкім камандзірам быў прызначаны Вільгельм Моха, украінскім — Яўген Пабігушчы, а яго намеснікам і камандзірам 1-й роты стаў Шухевіч. Салдаты батальёна пакінулі мемуары пра тыя падзеі. Паказальным з'яўляецца, што ва ўспамінах яны, часцей за ўсё, не пішуць назвы населеных пунктаў, дзе адбываліся баявыя сутыкненні, то бок баяцца праверкі мемуараў дакументамі. За 10 месяцаў іх побыту ў Беларусі загінула 49 і было паранена 40 салдат батальёна. У той жа час імі было знішчана больш за 2000 «партызан». То бок, суадносіны стратаў былі 1:40. Падобныя лічбы выклікаюць падазрэнне, што большасць забітых наўрад ці былі партызанамі са зброяй у руках — хутчэй, цывільнае насельніцтва. Не варта забываць і на тое, што, калі батальён прыбыў у Беларусь, немцы і калабаранты актыўна ўвасаблялі ў жыццё палітыку «канчатковага развязання яўрэйскага пытання».

Падчас «антыпартызанскіх акцый» 201-ы батальён падпарадкоўваўся вядомаму ваеннаму злачынцу, обергрупенфюрэру СС, генералу паліцыі і войскаў СС Эрыху фон дэм Баху (Erich Julius Eberhard von dem Bach), які актыўна ўдзельнічаў у Халакосце ў краінах Балтыі, а з восені 1942 года кіраваў антыпартызанскімі акцыямі на тэрыторыі Беларусі, Польшчы, Украіны і Расіі. Бах лічыў 201-ы батальён добрай баявой адзінкай. У нейкі момант меў месца канфлікт паміж Пабігушчым і Мохам, і Бах асабіста прылятаў гэты канфлікт вырашаць. У сваіх успамінах Пабігушчы апісвае заканчэнне візіту: «Фон Бах супакоены адыходзіць да самалёта і просіць, каб там прысутнічалі і іншыя старшыны, каб ён мог з імі пабачыцца і пагутарыць. Каля самалёта сабралася шмат вояроў. Сярод іх ёсць і Шухевіч, таксама без афіцэрскіх узнагарод, таму што старшыны не насілі ніякіх знакаў адрознення. Фон Бах прыглядаецца да Шухевіча і гаворыць: «О, гэты салдат — гэта дакладна германскі тып»... Шух усміхнуўся. Шухевічу не трэба было мець знакаў адрознення, каб у ім нават замежнікі распазнавалі прыроджанага камандзіра».

Паказальным з'яўляецца і факт, што ў снежні 1942 года Шухевіч праігнараваў загад кіраўніка АУН(б) Міколы Лебедзя перавесці батальён на нелегальнае становішча. Пазней — на 3-м Вялікім надзвычайным зборы АУН у жніўні 1943 года — Шухевіч выступаў супраць антынямецкіх дзеянняў і настойваў на актывізацыі барацьбы ў антысавецкім накірунку.

У АУН (Бандэры) і ў УПА былі розныя людзі. Але Шухевіч — персанаж, які скампраметаваў сябе супрацоўніцтвам з нацыстамі, антысемітызмам і надзвычай верагодным удзелам у знішчэнні грамадзянскага насельніцтва, у першую чаргу яўрэяў.

***— У Беларусі хапае выказванняў накшталт таго, што «для ўкраінцаў Шухевіч — бясспрэчны герой». А як гэта выглядае з Харкава?***

— У мяне адчуванне, што ў масе сваёй украінцы ўвогуле не маюць уяўлення, хто такі Раман Шухевіч. Як і Сцяпан Бандэра, як і Андрэй Мельнік, як і большасць лідараў АУН у 1930–1940-я гады. Праблема ў тым, што дагэтуль няма аніводнай адэкватнай біяграфіі таго ж Шухевіча. Тое, што мы маем, — ненавуковая апалагетыка. Першая навуковая біяграфія Сцяпана Бандэры была апублікаваная ў 2015 годзе — у Германіі, на англійскай мове, польска-нямецкім аўтарам. Сярод людзей, якія любяць Шухевіча, ёсць ідэалізаванае ўяўленне пра яго. Людзі, якія распаўсюджваюць культ Бандэры, Шухевіча, Сціцка, часцяком нават не ўяўляюць, што гэта за асобы.

***— Украіна цяпер імкнецца ў Еўропу. Ці ёсць перспектыва ўключэння ўкраінскай гістарычнай памяці ў агульнаеўрапейскую, агульначалавечую гістарычную памяць рэгіёна? І якое месца ў такой гісторыі мог бы заняць Шухевіч?***

— Я б хацеў, каб былі створаны такія наратывы, якія б не правакавалі канфліктаў Украіны з суседзямі, і каб суседзі стварылі больш прымальныя наратывы для Украіны. Каб стасункі гістарычнай памяці Украіны з памяццю Расіі і Польшчы будаваліся прыкладна так, як цяпер узаемаадносяцца памяць Германіі і Францыі, паміж якімі зараз няма «войнаў» вакол падзей мінулага. На жаль, у нас у рэгіёне цяпер тэндэнцыі не такія. Скажам, у 2010–2011 гадах Польшча падавалася мне прыкладам для Украіны. Мне падабалася, як там абмяркоўваліся пытанні і Валыні, і ўдзелу палякаў у Халакосце. Цяпер я прыязджаю ў Варшаву, і ў цэнтры горада неанацысцкія малойчыкі збіраюць подпісы за правядзенне раскопак у Ядвабнэ пад лозунгам «Хочам ведаць пра Ядвабнэ праўду!». Хоць пра тыя падзеі ўсё ўжо вядома да дэталяў.

Пра Расію з шалёным неасталінізмам я наогул маўчу.

Я б хацеў, каб ва ўкраінскім наратыве Шухевіч успрымаўся як чалавек эпохі, як прафесійны ваяр, які змагаўся за радзіму, але здзейсніў шэраг памылак і, магчыма, злачынстваў. Мы не ведаем, якія яшчэ дакументы адкрыюцца пра дзейнасць шуцманшафт-батальёнаў у Беларусі. Дадатковыя сведчанні знаходзяцца перыядычна.

На жаль ці на шчасце, любы нарратыў мае сваіх герояў. Людзі хочуць бачыць нейкі партрэт на сцяне і ўшаноўваць яго, калі ўздымаецца дзяржаўны сцяг. Але Шухевіча сярод такіх герояў я б бачыць не хацеў.

# «Без излишнего украшательства...»

## Як Мінск рыхтаваўся да Алімпіяды 1980 года, і колькі гэта каштавала

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Навіны пра правядзенне ў Беларусі другіх Еўрапейскіх гульняў у 2019 годзе і чарговага чэмпіянату па хакеі ў 2021 годзе кажуць: наша краіна напярэдадні буйных спартовых падзей. Ёсць нагода прыгадаць тое, як Мінск — сталіца тады яшчэ БССР — рыхтаваўся да Алімпіяды–80, права на правядзенне якой СССР атрымаў у 1976 годзе.**

**З 42 сталічных прыбіральняў, у якіх амаль заўсёды не хапала хлоркі, люстэркаў, паперы і мыла, на 1 красавіка 1980 года адрамантаваны былі толькі пяць. Астатнія нібыта патрабавалі толькі «освежающего ремонта»**



### Падняць непад'ёмнае

Мінск разам з Кіевам і Ленінградам стаў свайго роду алімпійскім спадарожнікам: у ім 20–27 ліпеня 1980 года павінны былі адбыцца адборачныя матчы алімпійскага футбольнага турніру з удзелам каманд Алжыра, Ірака, Іспаніі, Коста-Рыкі, Сірыі, Фінляндыі і Югаславіі.

10 сакавіка 1976 года ЦК КПБ і Савет Міністраў БССР зацвердзілі сумесную пастанову №86. Гэты прававі акт з грыфам «не для печати», завізаваны Пятром Машэравым і Ціханам Кісялёвым, гучаў даволі экзатычна, улічваючы ранг падпісантаў: «О мерах по подготовке к проведению в г. Минске предварительных матчей олимпийского футбольного турнира и обеспечению ввода в действие объектов, необходимых для подготовки советских спортсменов к Олимпийским играм 1980 г.». Пастанова складалася ажно з 19 пунктаў.

Згодна ёй, ствараўся рэспубліканскі арганізацыйны камітэт «Алімпіяда–80» на чале з першым намеснікам старшыні Савета Міністраў БССР Уладзімірам Міцкевічам. У яго склад увайшлі міністры, іх намеснікі, старшыня Мінгарвыканкама. Перад аргкамітэтам паўставала амбіцыйная задача «проведения игр на высоком политическом, организационном и техническом уровне».

У складзе аргкамітэта ў 1976–1980 гадах былі створаны прэзідыум, апаратыўны штаб кіравання гульнямі, гарадскі апаратыўны штаб і апаратыўныя цэнтры: стадыён «Дынама» (з уласным прэс-цэнтрам), алімпійскі спартыўны комплекс «Стайкі», аэрапорт, чыгуначны вакзал, гатэлі «Мінск» і «Беларусь» (маецца на ўвазе будучая «Свіслач»). Дзейнічалі разнастайныя камісіі: па будаўніцтве спартыўных збудаванняў і добраўпарадкаванні, планава-фінансавая і іншыя.

1 студзеня 1979 года пры аргкамітэце з'явіўся дадатковы рабочы орган — Дырэкцыя. У спецыяльным палажэнні вызначаліся яе задачы: кантроль над падрыхтоўкай і арганізацыяй прыёму, размяшчэння і абслугоўвання асобаў, якія прыбудуць на футбольны турнір; кантроль над якасцю і тэрмінамі падрыхтоўкі аб'ектаў, неабходных для правядзення адборачных матчаў; падрыхтоўка да правядзення пасяджэнняў рэспубліканскага аргкамітэта. Дырэкцыю ўзначаліў намеснік старшыні Савета Міністраў Анатоль Бабкоў.

Сапраўдны аўрал пачаўся пасля сумеснай пастановы ЦК КПБ і Савета Міністраў ад 25 мая 1979 года «О дополнительных мерах по подготовке к Олимпийским играм 1980 г. и проведению Олимпийского футбольного турнира в Минске» за подпісамі Пятра Машэрава і новага кіраўніка ўрада Аляксандра Аксёнава.

І хаця пастанова канстатавала, што да падрыхтоўкі футбольных гульняў зроблена шмат, крытычнага ў ёй было больш: негатыўная адзнака была дадзена амаль усім міністэрствам і ведамствам. Пастанова з 43 пунктаў, якая нагадвала сабой сапраўдны вайсковы план, у катэгарычна-ўльтыматыўнай форме патрабавала ўвесці «без излишнего украшательства» ў эксплуатацыю ў чацвёртым квартале 1979 года стадыён «Дынама», гасцініцу «Планета», а ў другім квартале 1980 года — кантрольна-прапускны пункт у вёсцы Казловічы Брэсцкага раёна.

### Аўрал будаўніцтва

Галаўным болем для аргкамітэта, канешне, сталі алімпійскія будоўлі, рэканструкцыі і рамонты. Гэта патрабавала вялізных выдаткаў і часу. Напрыклад, на пасяджэнні Аргкамітэта 23 верасня 1977 года абмяркоўвалася пытанне аб нездавальняючай працы па рэканструкцыі стадыёна «Трактар». Канстатавалася, што «на объекте остро ощущается недостаток рабочей силы, механизмов».

Сумнае першынства належала стадыёну «Дынама», знешні выгляд якога пасля рэканструкцыі павінен быў палепшыцца кардынальна. Напрыклад, цалкам планавалася замяніць крэслы. Для гэта з Белавежскай пушчы трэба было нарэзаць 500 куб.м. дрэва, якое пасля спецыяльнай апрацоўкі «может простоять в деле 20–25 лет». Усе бегавыя дарожкі планавалася забяспечыць сінтэтычным пакрыццём тыпу «тартан» швейцарскай вытворчасці. Новым тварам стадыёна павінна было стаць «универсальное буквенно-цифровое табло, управляемое с помощью двух дисплеев».

Афармленне і газіфікацыя (345 метраў) галоўнага элемента стадыёна — алімпійскай чашы — каштавала прыкладна 4,5 тысячы савецкіх рублёў.

Усяго рэканструкцыя абышлася БССР у 8 мільёнаў 156 тысяч рублёў. Пра гэта сведчыць ліст Уладзіміра Міцкевіча ў Маскву, датаваны 3 ліпеня 1980 года. З іх на «Дынама» было затрачана 5 мільёнаў 842 тысячы рублёў, на «Трактар» — 498 тысяч рублёў, на «Стайкі» — 922 тысячы рублёў, на «Раўбічы» — 894 тысячы рублёў. Немалыя грошы былі ўкладзены ў знакамітую «алімпійскую шашу» Брэст–Масква, беларускі ўчастак якой складаў 603,4 км.

7 ліпеня 1980 года спецыяльная камісія пад кіраўніцтвам намесніка міністра будаўніцтва і эксплуатацыі аўтамабільных дарог БССР прыйшла да высновы, што ўчастак гатовы да прыняцця замежных турыстаў і гасцей турніру. Было рэканструявана 161 км. дарогі, капітальна адрамантавана 312 км., паверхнева апрацавана 433 км. Усталяваныя 25 км. бар'ерных агароджаў, пабудаваны 50 аўтапавільёнаў, 13 алімпійскіх пано, 15 інфармацыйных і сэрвісных дарожных знакаў.

Рэканструкцыю прайшоў КПП «Варшаўскі мост» (543 тысячы рублёў замест запланаваных 415 тысяч) і пабудаваны КПП «Казловічы» (714 тысяч рублёў пры плане ў 515 тысяч).

### Каб было прыгожа

Сапраўднай праблемай было добраўпарадкаванне Мінска. На 1 красавіка 1980 года ў горадзе на гэтыя мэты было выдаткавана 1,143 мільёна рублёў пры плане 1,031 мільёна. Быў адрамантаваны 31 км. кабеляў, 295,8 тыс. км. кв. праезнай часткі (замест запланаваных 200 тыс. км. кв.). Заменены 326 транспартных і 66 пешаходных светлафораў, усталяваны 131 дарожны знак.

Фактычна былі скончаны будаўніцтва праспекта Дзяржынскага і рэканструкцыя Чыгуначнай вуліцы. У справаздачах таго часу сустракаюцца сотні і тысячы тон цэменту, сталёвых труб, арматуры і іншага.

Аднак з запланаваных для рамонту 130 будынкаў адрамантавалі толькі 68. Сярод прычын былі названы традыцыйны дэфіцыт (напрыклад, патрабавалася 80 тон рознакаляровай фарбы) і ўмовы надвор'я. Улады вымушаны былі падоўжыць тэрміны працаў да 1 чэрвеня 1980 года. У асноўным рамантаваліся будынкі, якія знаходзіліся па маршруце Алімпійскага агню: чыгуначны вакзал — вул. Кірава — вул. Свярдлова — Ленінскі праспект — пл. Перамогі — Цэнтральны дзіцячы парк ім М. Горкага — вул. К. Маркса — вул. Энгельса — Цэнтральная плошча.

Ажыццяўлялася мастацкае аздабленне галоўных магістраляў і вуліц сталіцы: усталяванне кветачніц, упрыгожванне прыпынкаў. Сталічным гонарам на той час сталі газасветлавыя лозунгі: «Народы СССР едины!» (вул. Чкалава), «Марксизм-ленинизм — знамя нашей эпохи!» (вул. Талстога).

Ва ўпрыгожванні сваю ролю павінна была адыграць рэклама, аднак камбінат «Белбытрэклама» на 10 сакавіка 1980 года аформіў толькі 15 аб'ектаў з запланаваных 54.

З 42 сталічных прыбіральняў, у якіх амаль заўсёды не хапала хлоркі, люстэркаў, паперы і мыла, на 1 красавіка 1980 года адрамантаваны былі толькі пяць. Улады абяцалі, што капітальна будуць адрамантаваныя прыбіральні ў парку 50-годдзя Кастрычніка (у якім, дарэчы, канстатавалася 90% «износа асфальтного покрытия») і ў Цэнтральным скверы. Астатнія нібыта патрабавалі толькі «освежающего ремонта».

### Побыт і пражыванне

Галоўнай задачай для ўладаў, безумоўна, было размяшчэнне ўдзельнікаў гульняў, афіцыйных асобаў, журналістаў, а таксама замежных і савецкіх турыстаў. Ужо 23 жніўня 1976 года Галоўнае ўпраўленне па замежным турызме пры Саўміне СССР у лісце да ўрада БССР рэкамендавала правесці «комплексное обследование шоссейного перехода через Государственную границу СССР и до конца этого года разработать мероприятия по увеличению пропускной способности автомобильного КПП в условиях значительного роста международных автомобильных перевозок в период проведения Олимпиады–80».

Замежныя турысты, якія ехалі на мінскі футбольны турнір на асабістым аўто, павінны былі аплаціць кампаніі «Саўтрансаўта» дарожны збор у памеры 10 рублёў (акрамя таго, 5 рублёў — за прычэп). Калі групы ехалі на аўтобусах, то дарожны збор складаў 40 рублёў з аўтобуса да 40 месцаў (пры большай колькасці месцаў збор павялічваўся да 50 рублёў).

У канцы снежня 1978 года Масква вызначыла квоту, паводле якой Мінск павінен быў прыняць замежных турыстаў — 6000, савецкіх — 4800, 140 чалавек ад нацыянальных спартыўных дэлегацый і 180 афіцыйных асобаў, гасцей аргкамітэта і журналістаў. Для гэтага былі падрыхтаваны 340 аўтобусаў, 24 легкавых і 420 грузавых аўтамабіляў. Абслугоўваць пасажыраў таксама былі павінны 5 пар спецыяльных цягнікоў «Брэст–Масква» і 2 пары цягнікоў «Мінск–Масква».

Былі выдзелены 7 самалётаў ТУ-134А. Для экіпажаў планаваліся лекцыі па тэмах: «Методы идеологической борьбы и повышение политической бдительности», «Характерные вопросы, задаваемые иностранными туристами и ответы на них». Хуткімі тэмпамі ішла рэканструкцыя аэравакзала на суму 675 тысяч рублёў.

Для размяшчэння савецкіх і замежных турыстаў было падрыхтавана 11018 жылых месцаў. Замежныя турысты павінны былі жыць у гасцініцах «Мінск» (713 турыстаў і 50 афіцыйных асобаў), «Беларусь» (180 журналістаў), «Спадарожнік», «Юбілейная», "Турыст", «Юнацтва», у матэлі (600 чалавек) і ў кемпінгу «Мінскі» (300 чалавек). У кемпінгу планавалася пабудаваць дадаткова 50 драўляных домікаў. Замежныя турысты маглі жыць у сваёй палатцы ці ў караванінгу. У такім разе кошт месца каштаваў 4 рублі на суткі. Гасцініца «Планета», урачыстае адкрыццё якой адбылося 16 красавіка 1980 года, павінна была прыняць 600 чалавек.

Замежнікаў быў гатовы прыняць інтэрнат №4 Беларускага тэхналагічнага інстытута (960 чалавек). Савецкія грамадзяне маглі размясціцца ў інтэрнаце БДУ №6. Быў створаны і рэзерв

на 2060 месцаў (адна гасцініца і два інтэрнаты).

### Гандаль і харчаванне

Карміць заўзятараў Алімпіяды павінна было 51 прадпрыемства на 11,2 тысячы месцаў, у тым ліку 20 рэстаранаў, 9 кавярняў, 22 сталовыя. Пры гэтым меню (у замежнікаў яно было багацейшае) абавязкова павінна было ўключаць «блюда белорусской кухни». З беларускага значыліся: боршч беларускі, амлет беларускі, філе па-мінску, «котлета "Беловежская" со сложным гарниром». У меню замежнікаў уваходзіла піва «Жигулёвское» і «Белорусское». Было распрацавана і меню сухіх пайкоў, якія звычайна складаліся з вэнджанай кілбасы, яек, сыру, фасаваных кавы і цукру, 1 бутэлькі піва.

Гандаль нехарчовай прадукцыяй забяспечваўся 184 аб'ектамі, з іх 14 — прамтаварнымі, 11 — кніжнымі, 3 — ювелірнымі (у тым ліку легендарнай «Бярозкай», у якой дазвалялася абслугоўваць за валюту). Непасрэдна на стадыёне «Дынама» планавалася арганізаваць 160 пунктаў дробнарознічнага гандлю (квас, вада, напоі). Для гэтага былі закуплены 3 мільёны аднаразовых кубкаў.

І зноў не абышлося без праблем. На 10 сакавіка 1980 года 36 крамаў знаходзіліся ў рамонце, які зацягваўся хранічным дэфіцытам будматэрыялаў. Для абслугоўвання кліентаў аб'ектам грамадскага харчавання былі патрэбны 4627 чалавек, а на 1 красавіка 1980 года іх было толькі 3799. Нястачу меркавалася пакрыць з навучэнцаў Мінскага прафесійнага кулінарнага вучылішча.

Медыцынскае амбулаторнае абслугоўванне замежных турыстаў ускладалася на 19-ю гарадскую паліклініку, а стацыянарнае — на гарадскую бальніцу хуткай дапамогі і гарадскую інфекцыйную клінічную бальніцу. Лекавае забеспячэнне замежных турыстаў ажыццяўлялася сталічнымі аптэкамі №№13,17 і 26. Што да грамадзянаў СССР, то яны павінны былі абслугоўвацца... «по месту их проживания»!

Міністэрства аховы здароўя БССР хадайнічала аб спецыяльнай форме для 420 чалавек, якія будуць задзейнічаны падчас адборачных матчаў. Для гэтага было патрэбна 25000 метраў матэрыялу тыпу «лён-лаўсан». Кошт аднаго касцюма прыблізна складаў 45–55 руб.




**Абранне Кіева, Ленінграда і Мінска ў якасці месцаў правядзення адборачных матчаў мела, безумоўна, палітычную падаплёку: Беларусь, Расія і Украіна былі заснавальнікамі СССР. Крыніца: Нацыянальная бібліятэка Беларусі**

### Культура

Галоўная мэта культурнай праграмы палягала ў тым, каб прадэманстраваць удзельнікам, гасцям, журналістам, турыстам «достижения советской социалистической культуры, преимущества советского образа жизни».

Планавалася выступленне музычна-танцавальных і народных самадзейных калектываў: «Лявоніха» і «Брэстаўчанка», фальклорна-харэаграфічнага ансамбля «Харошкі», вакальна-інструментальных ансамбляў «Песняры» і «Верасы», Мінскага камернага аркестра, спевака Віктара Вуячыча і эстраднага ансамбля «Тоніка» і гэтак далей. Госці сталіцы маглі паглядзець 33 спектаклі, наведаць экскурсіі «Мінск — спартыўны» і «Мінск — сталіца БССР», а таксама Хатынь і Курган Славы.

Экскурсіі для замежнікаў былі платныя. Напрыклад, трохгадзінная экскурсія «Мінск — спартыўны» з наведваннем Алімпійскага спартыўнага комплексу па біятлоне і музея Беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах каштавала ажно 34 рублі, калі замежны турыст быў на ўласным аўтамабілі і 3 рублі — на грамадскім транспарце.

Падрыхтоўка да футбольных матчаў адначасова засведчыла жудасны стан культурных аб'ектаў. Так, намеснік дырэктара Беларускай дзяржаўнай філармоніі Барыс Гершовіч у адпаведным лісце (красавік 1980 года) жорстка крытыкаваў арганізацыі Мінска за іх фактычнае нежаданне рамантаваць будынак філармоніі.

### Бяспека

Захады бяспекі і аховы парадку падчас адборачных матчаў былі на той час беспрэцэдэнтнымі. На пасяджэнні камісіі аргкамітэта па бяспецы і ахове грамадскага парадку 16 лістапада 1979 года пад ціскам МУС было прынята рашэнне аб усталяванні ў кожным праёме аркады стадыёна «Дынама» дэкаратыўных кратаў «в целях предупреждения самоубийств и выбрасывания зрителями посторонних предметов».

26 сакавіка 1980 года была зацверджана інструкцыя аб сістэме і парадку суправаджэння транспарту з удзельнікамі і гасцямі адборачных футбольных матчаў. Патрульныя аўтамабілі ў абавязковым парадку суправаджалі кіраўнікоў і чальцоў Міжнароднага алімпійскага камітэта, ФІФА, каманды ўдзельнікаў матчаў, ганаровых гасцей, а таксама замежных турыстаў у складзе калонаў з 5 і больш аўтобусаў. Былі зацверджаныя пропускі для ўвахода на «Дынама». Іх было аж дзявяць відаў — у залежнасці ад пазначэння літары і каляровай гамы. Напрыклад, пропуск серыі «ОК» з надпісам «Игры XXII Олимпиады. Минск–1980» выдаваўся чальцам Аргкамітэта, а серыі «СПБ» — супрацоўнікам КДБ і МУС.

Серыя «ОП» з выявай стадыёна належала абслугоўваючаму персаналу. Звяртае ўвагу высокая ступень рэгламентацыі. Напрыклад, калі над выявай стадыёна значылася літара «Т», то супрацоўнік з аслугі меў права знаходзіцца і працаваць толькі на трыбунах, калі пад выявай — толькі пад трыбунамі. Для атрымання пропуску трэба было запоўніць анкету, у якой восьмы пункт тычыўся паездак за мяжу.

26 чэрвеня 1980 года на адкрытым партыйным сходзе партарганізацыі МУС ішла гаворка пра тое, што на ўчастку трасы Брэст–Мінск падчас футбольнага турніру будуць задзейнічаны 275 інспектараў ДПС, 34 патрульныя машыны, 25 матацыклаў.

### Кадры вырашаюць усё

Вялікая ўвага надавалася кадрам. 15 лютага 1979 года Савет Міністраў БССР выдаў пастанову, паводле якой шэраг міністэрстваў і ведамстваў павінны былі ў трохтыднёвы тэрмін распрацаваць планы па падборы неабходнай колькасці супрацоўнікаў для абслугоўвання адборачных матчаў, а таксама «организовать подготовку рабочих массовых профессий, не требующих длительного срока обучения». Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі павінна было набраць на навучанне 1745 студэнтаў.

Для абслугоўвання футбольнага турніру ў Мінску планавалася прыцягнуць: у гасцініцах — 470 чалавек, кіроўцаў аўтатранспарту — 900, працаўнікоў сувязі — 1319, персаналу аўтазаправачных станцый — 430, працаўнікоў бытавога абслугоўвання — 2040, у абменных пунктах — 255, на стадыёне «Дынама» — 362 (з іх 100–120 чалавек — для забеспячэння кантрольна-прапускной службы). Пазней гэтыя лічбы неаднаразова карэктаваліся.

З ліку сталічных студэнтаў былі абраныя 698 гідаў-перакладчыкаў, якім належала надбаўка да стыпендыі ў 10 рублёў. З іх 450 — большасць — была з Мінскага інстытута замежных моваў (220 — англійская, 110 — французская, 50 — нямецкая, 50 — іспанская, 10 — партугальская, 10 — італьянская). Са справаздачы Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР ад 18 снежня 1978 года вынікае, што «для обучения отобраны наиболеее дисциалинированные, хорошо владеющие марксистско-ленинской теорией, активно участвующие в общественной жизни студенты».

### І, канешне ж, квіткі

Галоўная інтрыга — продаж квіткоў на адборачныя матчы. Пры аргкамітэце 25 кастрычніка 1979 года была створана спецыяльная камісія па размеркаванні квіткоў. Камісія падзяліла іх на чатыры катэгорыі. Квіткі першай катэгорыі каштавалі для айчынных грамадзянаў 2 руб. 10 кап., для замежнікаў — 7 руб. Білеты другой, трэцяй і чацвёртай катэгорыі каштавалі 1 руб. 80 кап. і 6 руб., 1 руб. 50 кап. і 5 руб.; 90 кап. і 5 руб. адпаведна.

На кожны матч была ўсталявана квота — 49023 квіткі (пасля рэканструкцыі стадыён «Дынама» ўмяшчаў 50067 чалавек). На адным з пасяджэнняў камісіі канстатавалася, што «продажа билетов в кассах будет очень ограничена». Між іншым, камісія вызначыла дакладную лічбу квіткоў на ўсе дні матчаў для замежных турыстаў — 52500. То бок, амаль усе іншаземцы мелі магчымасць наведаць кожны адборачны матч.

Напэўна, дзейнічалі і «шэрыя схемы»: па знаёмству, для «сваіх». Напрыклад, у чэрвені 1980 года да аргкамітэта звярнуўся Савет Міністраў Літвы, які прасіў 20 квіткоў на 27 ліпеня. У гэты дзень павінен быў адбыцца чвэрцьфінальны матч Алжыр — Югаславія.

Для абласцей рэспублікі планавалася выдзеліць усяго ад 500 да 700 квіткоў на кожны матч.

### Што ва ўзнагароду?

Падрыхтоўка да футбольных матчаў пэўным чынам прадэманстравала сапраўдныя адносіны саюзнага цэнтра да Беларусі. 26 мая 1980 года з Масквы прыйшла разнарадка, паводле якой за арганізацыю футбольных спаборніцтваў рэспубліка атрымлівала 3 ганаровыя граматы, 1 памятны вымпел і 5 лістоў з падзякай. Праўда, у чэрвені пазіцыя Масквы трохі «змякчылася»: колькасць лістоў з падзякай узрасла да 10, ганаровых грамат — да 5, а памятных вымпелаў — да 3. Акрамя таго, БССР павінна была быць узнагароджана трыма ганаровымі знакамі.

Уладзімір Міцкевіч накіраваў запыт аб дадатковым выдзяленні 30 знакаў, 30 грамат, 50 вымпелаў і 60 лістоў. Масква задаволіла просьбу аб вымпелах і лістах, але дала згоду толькі на 23 знакі і 10 грамат.

Такім чынам, у Беларускай ССР у 1976–1980 гадах была здзейснена каласальная праца па падрыхтоўцы сталіцы для правядзення адборачных футбольных матчаў у межах XXII Алімпіяды. Мінск істотна палепшыў сваё сацыяльна-эканамічнае становішча, вырашыўшы за кароткі час пытанні, якія «віселі» дзесяцігоддзямі, і дасягну па многіх параметрах еўрапейскага, а па некаторых — і сусветнага ўзроўню.

Аднак у гэтай падрыхтоўцы, як у крывым люстэрку, паказалася ўся заганнасць эканамічнай мадэлі адміністратыўна-каманднага тыпу, ігнараванне патрэбаў уласных грамадзян у параўнанні з іншаземцамі, аўральшчына і штурмаўшчына, замешаныя на хранічным дэфіцыце, няздольнасць кіруючых гаспадарчых колаў эфектыўна ўкладаць і размяркоўваць сродкі і дасягаць найлепшага выніку з найменшымі цяжкасцямі.



## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### Македонія. Трэба змяніць назву

Кіраўніцтва Македоніі пагадзілася выканаць незвычайнае патрабаванне Грэцыі. Грэкам не падабаецца назва краіны, якая дублюе назву адной з грэчаскіх правінцый. Такое падабенства, на думку Афінаў, стварае падставу для тэрытарыяльных прэтэнзій з боку Скоп'е, не кажучы пра тое, што сапраўдная Македонія — гэта грэчаскі край. Канфлікт наконт таго, як называць Македонію, цягнуўся практычна з часоў развалу Югаславіі, аднак на гэтым тыдні ўзніклі падставы казаць пра яго вырашэнне. Каб абыйсці вета Грэцыі на прыём Македоніі ў NATO, македонскія ўлады пагадзіліся на змену назвы дзяржавы. Новая назва, па словах дырэктара македонскага МЗС, будзе ўзгодненая падчас сустрэчы з грэчаскім калегам. Калі верыць прэсе, македонскі бок будзе прапаноўваць грэкам назву «Верхняя Македонія». Афіны, у сваю чаргу, кажуць, што заявы македонскіх чыноўнікаў гучаць «аптымістычна». Праўда, канфлікт вакол македонскай спадчыны на гэтым можа і не скончыцца. Раней у Грэцыі вельмі адмоўна рэагавалі на тое, што ў Македоніі ўзнікла мода называць усе важныя аб'екты ў гонар славутага Аляксандра Македонскага, якога грэкі лічаць сваім земляком.

**Паводле брытанскай прэсы**

### Украіна. Пасля «дэкамунізацыі» — «дэхмяльнізацыя»?

Не паспелі ва Украіне цалкам знішчыць усе манументальныя аб'екты савецкага мінулага, як у фокус увагі трапілі помнікі Багдану Хмяльніцкаму. Казацкаму гетману закідаюць тое, што ў XVII стагоддзі падчас Пераяслаўскай рады ён падпісаў дамову пра ўваход краю ў склад Расіі і, як следства, заслугоўвае асуджэння. Першым за зруйнаванне помнікаў Хмяльніцкаму выступіў Міхаіл Бродскі, скандальны алігарх, блізкі да Юліі Цімашэнка. «Бязвізам — мы развіталіся з Расіяй, куды нас прывёў Багдан Хмяльніцкі. Можа, і з ім развітаемся? Помнік прыбяром у парк, а на яго месца паставім помнік героям, якія загінулі ў вайне за незалежнасць ад Расіі?» — прапанаваў Бродскі. Сентэнцыя Бродскага — не першы заклік да рэвізіі постаці Хмяльніцкага ва ўкраінскай гістарыяграфіі. Раней на помніку гетману ў цэнтры Кіева з'яўляліся розныя ганебныя надпісы. Пакуль не зразумела, ці дойдзе справа да «дэхмяльнізацыі», а вось цырымонія ўрачыстага перагляду рашэнняў Пераяслаўскай рады цалкам рэальная. Ідэя правядзення «Пераяслаўскай рады 2.0» была агучаная адным з дарадцаў Парашэнкі.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### Курдыстан. Неўзабаве — незалежнасць

Улады іракскага Курдыстана маюць намер правесці плебісцыт аб незалежнасці рэгіёна 25 верасня 2017 года. Раней дзве асноўныя курдскія палітычныя партыі Ірака — Дэмакратычная партыя Курдыстана і Патрыятычны саюз Курдыстана — выступілі за правядзенне рэферэндуму аб незалежнасці аўтаноміі, сфармаваўшы камітэт, які і вызначыў механізм і дату правядзення плебісцыту. Іракскі Курдыстан — неафіцыйная назва Курдскага аўтаномнага раёна, які знаходзіцца на поўначы і паўночным усходзе Ірака. Шырокая аўтаномія рэгіёну замацаваная ў Канстытуцыі Ірака 2005 года. Цэнтральныя ўлады ў Багдадзе пакуль не адрэагавалі на гэтую інфармацыю, хоць Багдад і Эрбіль (адміністрацыйны цэнтр іракскага Курдыстана) даўно спрачаюцца наконт прыналежнасці рэгіёну Кіркук, які вельмі багаты на карысныя выкапні. Дэкларацыя аб незалежнасці можа стацца сігналам для актывізацыі курдскага руху ў суседніх краінах, дзе пражываюць больш за 20 мільёнаў курдаў.

**Паводле брытанскай прэсы**

### Узбекістан. Усхваляць прэзідэнта забаронена

Ва Узбекістане прынята незвычайная пастанова, якая забараняе музыкам і спевакам хвалебныя песні, прысвечаныя кіраўніку краіны. Такі крок быў зроблены праз некалькі тыдняў пасля таго, як 39-гадовая спявачка Дзільфуза Ісмаілава прысвяціла Шаўкату Мірзіяеву музычны відэаролік пад назвай «Хай будзе здаровы султан гэтай прыгожай зямлі». Песня ўсхваляе Мірзіяева як «выдатнага султана» гэтай зямлі, «цень Бога на Зямлі» і «каханага чалавека». У відэаролiку фігуруе сам Мірзіёеў падчас розных афіцыйных мерапрыемстваў, дзелавых паездак і сустрэч. Кліп выклікаў крытыку сярод карыстальнікаў узбекскіх сацыяльных сетак. Некаторыя з іх сцвярджалі, што такія песні рызыкуюцьператварыць краіну ў суседні Туркменістан. Нечакана для ўсіх улада падтрымала грамадскасць. Кліп, які быў змешчаны на YouTube, аператыўна выдалілі. Пазней з'явілася пастанова «Узбекканцэрту» — дзяржаўнага органу, які курыруе ўзбекскую індустрыю забаў, пра неэтычнасць падобных твораў. З цяперашняга часу песні ў гонар прэзідэнта могуць каштаваць спевакам і кампазітарам іх ліцэнзій на выкананне.

**Паводле ўзбекскай прэсы**



Фота www.voenhronika.ru

**Паколькі Германія ў разборках з Трампам выступае ў ролі абаронцы ідэалаў заходняй дэмакратыі, частка амерыканскага грамадства адкрыта сімпатызуе Меркель. Да таго ж, курс Трампа не выклікае захаплення нават у яго выбаршчыкаў**

# Нараджэнне новай Еўропы?

*Алег НОВІКАЎ*

**Праз сто гадоў пасля таго, як немцы і амерыканцы сустрэліся на палях Першай сусветнай вайны, абедзве краіны пасварыліся зноў. Вынікам цяперашняга канфлікту, на думку экспертаў, стане імклівая эмансіпацыя не толькі Германіі, аднак і ўсёй Еўропы.**

Напэўна, усё прызвычаіліся да спартовых рэкордаў, аднак, як высвятляецца, існуюць рэкорды і сацыялагічныя. Адзін з іх быў пабіты надоўна ў Германіі. Дадзеныя апытання выдання «Contra Magazin» сведчаць, што ўпершыню ў гісторыі сацапытанняў у ФРГ рэкордна малая колькасць немцаў давярае ЗША. Толькі 21% рэспандэнтаў заявіў, што бачаць у Вашынгтоне вартага даверу саюзніка. Прыкладна столькі ж давяраюць рускім.

З іншага боку, такі трэнд заканамерны з улікам беспрэцэдэнтнага пахаладання ў амерыкана-германскіх адносінах, і напоўніцу ён праявіўся падчас саміту Вялікай сямёркі 1 чэрвеня. У межах мерапрыемства адбылася сустрэча Меркель і Трампа, на якой апошні агучыў усё, што накіпела і што так доўга баяўся сказаць Абама (той меў да Меркель асабістыя сантыменты). Не маючы комплексаў, Трамп абвінаваціў немцаў у субсідыях нямецкаму аўтапраму, маніпуляцыях з курсам еўра, нежаданні фінансаваць NATO і гэтак далей. Нарэшце, ледзь не па слядах сустрэчы Вашынгтон заявіў пра выхад ЗША з Парыжскай дамовы па клімаце, што ў Еўропе ўспрынялі як дэманстратыўны плявок у твар (барацьба з глабальным пацяпленнем была фішкай ЕС).

«З адменай Парыжскай дамовы былая звышдзяржава аказалася цалкам ізаляванай ад вольнага свету. Паўночнаатлантычны альянс раскалоўся», — пракаментаваў сітуацыю ўплывовы нямецкі часопіс «Der Spiegel». Яшчэ больш катэгарычнай была сама Меркель: «Мы, еўрапейцы, павінны ўзяць наш лёс у нашы рукі».

Хто пераможа ў дуэлі Трамп — Меркель?

На першы погляд, пытанне рытарычнае. Германія па сутнасці дасюль застаецца краінай, якая часткова падпарадкоўваецца правілам акупацыйнага рэжыму, што быў уведзены саюзнікамі па антыгітлераўскай кааліцыі яшчэ ў чэрвені 1945-га. На тэрыторыі краіны знаходзіцца тузін амерыканскіх баз, дзе цягнуць лямку каля 34 тысяч вайскоўцаў. Кампетэнцыі Бундэсвера моцна абмежаваныя тымі ж пасляваеннымі законамі. Амерыканскія спецслужбы нават не хаваюць, што сочаць за перамовамі і ліставаннем вядучых нямецкіх палітыкаў. Як тут ні працытаваць самога Трампа: «Германія — не вельмі моцная сіла, якая належыць да трэцяга эшалону».

Аднак такая ацэнка — архаічная ў часы гібрыдных войнаў, калі штык і танк замянілі мышка і клавіятура, з дапамогай якіх фармуецца грамадская думка. Паколькі Германія ў разборках з Трампам выступае ў ролі абаронцы ідэалаў заходняй дэмакратыі, частка амерыканскага грамадства адкрыта сімпатызуе Меркель. У дадатак скандальны курс Трампа не выклікае захаплення нават у яго выбаршчыкаў. Думка пра тое, што імпічмент Трампу непазбежны, штодня гучыць у СМІ.

Адным словам, у доўгатэрміновым плане перамога Меркель і яе саюзнікаў па ЕС падаецца непазбежнай. Але, як піша прэса, гэта не значыць, што пасля сыходу Трампа з Белага дому мы аўтаматычна вернемся ў знаёмыя геапалітычныя расклады, якія папярэднічалі часам Трампа. Ёсць думка, што цяперашні перагляд Трансатлантычнага пакту — не выбрык амерыканскага кіраўніка, а лагічныя следства барацьбы глабальных гульцоў за рэсурсы. То бок, любы гаспадар Белага дому будзе абараняць унутраны рынак і скарачаць замежныя субсідыі.

З іншага боку, еўрапейцы ўжо думаюць пра альтэрнатыву ЗША. 11 чэрвеня кіраўніца Мінабароны ФРГ Урсула фон дэр Ляен выступіла за больш цеснае супрацоўніцтва з Францыяй у сферы абароны, у прыватнасці, за стварэнне ваеннага саюза з Францыяй, які будзе пралогам войска ЕС. Пры гэтым яна не адпрэчвае тэзіс, што рэферэндум у Вялікабрытаніі і прэзідэнцкія выбары ў ЗША «адкрылі еўрапейцам вочы», і цяпер трэба браць бяспеку ў свае рукі. За кошт саюзу з Парыжам Берлін можа стаць саўладальнікам атамнай зброі, якой валодаюць французы.

І ўсё ж самы правакатыўны тэзіс тычыцца ідэнтычнасці немцаў, у якой праз канфлікт са Злучанымі Штатамі, быццам бы, могуць адбыцца тэктанічныя зрухі. У выніку, мауляў, бюргеры павераць у магчымасць Германіі без пратэкцыі з-за акіяну праводзіць сваю знешнюю палітыку. На практыцы, калі верыць некаторым экспертам, нас чакае адраджэнне бісмаркаўскай геапалітычнай канцэпцыі Kerneuropa (Ядро Еўропы). Рэалізацыя Kerneuropa ў цяперашніх умовах пасуе папулярным ідэям стварэння дзвюх Еўропаў: больш інтэграванай, эканамічна развітай, з адзінай валютай еўра (старая Еўропа плюс Польшча, Славакія, Чэхія, Паўночная Італія) і беднай перыферыйнай. Працэсей кажучы, Еўрасаюз чакаюць глыбокія рэформы.

Што тычыцца адносін з Усходам, дык расійская аналітыка ў кантэксце цяперашняй спрэчкі ЗША і ЕС спадзяецца на ўступленне ФРГ і Францыі ў еўразійскі клуб. Аднак у еўрапейскай прэсе больш кажуць пра вось Берлін — Пекін.

Усе агучаныя палітолагамі прагнозы вельмі спекулятыўныя. Аднак хіба не быў спекулятыўным прагноз Маргарэт Тэтчар, якая ў 1989-м закаціла істэрыку Джорджу Бушу? Яна тады сцвярджала, што аб'яднаная Германія цалкам зменіць Еўропу.

# Чаго чакаць ад маладзёнаў Навальнага?

Алег НОВІКАЎ

**У Маскве, Санкт-Пецярбургу і дзясятках іншых гарадоў Расіі 12 чэрвеня прайшлі антыкарупцыйныя мітынгі, якія закончыліся масавымі затрыманнямі ўдзельнікаў. «Новы Час» абмяркоўвае вынікі Дня Расіі з маскоўскім журналістам Дзмітрыем Кастэнкам.**



Фота www.navalny.com



Фота www.novayagazeta.ru

***— Што адбылося, на вашу думку, 12 чэрвеня?***

— Калі гаворка пра Маскву, дык, у двух словах, — маладыя людзі сарвалі фестываль, прымеркаваны да свята «Дзень Расіі». Пры гэтым адбылася незвычайная для расійскай пратэстнай культуры з'ява — рэпрэсіі і запалохванні на адрас маладых людзей не спрацавалі. Яны свядома ішлі на забароненую палітычную акцыю. Пры гэтым усе, хто хацеў пазбегнуць затрыманняў, мелі такую магчымасць. Таксама пратэстоўцы (праўда, галоўным чынам у Піцеры) спрабавалі аказаць супраціў спецназу. Гэтыя сцэны шмат каго ўразілі, нагадаўшы кіеўскі Майдан.

***— Як улады і праўладныя СМІ адрэагавалі на зрыў святкаванняў?***

— Падаецца, што ўлада трошкі разгубленая. Інакш бы ў дзяржаўных медыя не пачалася інфармацыйная кампанія супраць прыхільнікаў Навальнага. Калі раней праўладныя каналы намагаліся смяяцца з Навальнага і яго «шкалаты», дык цяпер ужываецца больш жорсткая лексіка — Навальнага называюць «палітычным педафілам», а яго паплечнікаў — «упырамі», «хунвэйбінамі», «гапатой». Падзеі на Цвярской падаюць як бунт мажораў — дзяцей карупцыянераў, якія, маўляў, баяцца Пуціна. Паліцыю заклікаюць больш не цацкацца з пратэстоўцамі, а ВНУ — не дапускаць да іспытаў абітурыентаў, якіх затрымалі 12 чэрвеня.

***— Адначасова з пратэстам на Цвярской на праспекце Сахарава адбыўся мітынг супраць так званай рэнавацыі — зносу старога жыллёвага фонду ў Маскве. Чаму Навальны адмовіўся ад удзелу ў тым мітынгу?***

— Логіка Навальнага — падтрымліваць высокі напружаны градус кампаніі, выкарыстоўваць пагрозу беспарадкаў як фактар ціску на Крэмль. Такая радыкальная логіка прывабная толькі для моладзі. У гэтай схеме немагчымыя іншыя формы грамадскай самаарганізацыі — той жа рух супраць рэнавацыі. Ахвяры рэнавацыі — пажылыя і бедныя масквічы, якія, вядома, не пойдуць на несанкцыянаваныя акцыі, каб пагуляць з паліцыяй у ката і мыш. І наадварот: тынейджарам сумна на звычайных мітынгах. Пакуль гэтыя два пратэстныя светы ніяк не могуць сустрэцца.

***— Раней шмат хто ў расійскай апазіцыі лічыў, што Навальны — засланы Пуціным «казачок». Ці не змянілі аматары гэтай версіі свае погляды пасля падзей 12 чэрвеня?***

— Наадварот, некаторыя яшчэ больш пераканаліся ў сваёй тэорыі. Напрыклад, звяртаюць увагу, што Навальны парушыў стары кодэкс дысідэнта — напярэдадні акцыі ніколі не начаваць у сваёй кватэры. А яго, як вядома, паліцэйскія затрымалі менавіта на выхадзе з кватэры.

Па-другое, антыкарупцыйная кампанія Навальнага накіраваная не супраць Пуціна, а супраць «Дзімона» — прэм'ера Дзмітрыя Мядзведзева. Гэта памяншае шансы Мядзведзева стаць кандыдатам у прэзідэнты, а між тым менавіта ён негалосна лічыцца лідарам ліберальных колаў крамлёўскай адміністрацыі. То бок, па факце Навальны дапамагае фракцыі «ястрабаў» у расійскім кіраўніцтве. На гэта звярнуў увагу Эдуард Лімонаў. «Так беспакарана, як Навальны, чалавек можа дзейнічаць толькі ў тым выпадку, калі ў яго ёсць добрая «крыша» ва ўладзе», — піша Лімонаў.

З іншага боку, у параўнанні з акцыямі ў сакавіку, зараз значна больш апазіцыянераў пагадзіліся стаць пад сцягі Навальнага. На іх думку, цяпер ва ўсіх антыпуціністаў агульная мэта — вярнуць грамадзянам палітычныя свабоды. Супярэчнасці ў трактоўцы асобы Навальнага трэба пакуль пакінуць на другім плане.

***— Ці здольная нарастаючая незадаволенасць моладзі сарваць крамлёўскі сцэнар прэзідэнцкіх выбараў у наступным годзе?***

— Сапраўды, вырасла новае пакаленне. Сапраўды, геаграфія пратэсту пашыраецца. Сапраўды, ёсць пару тысяч маладых чалавек, якія лічаць сваёй мэтай жыцця змену рэжыму. Аднак настрой гэтых маладых людзей хутчэй несур'ёзны. У дадатак пакуль увесь пратэст пабудаваны як вертыкальны персаналісцкі рух, і без фігуры Навальнага, якога можна проста часова прыбраць з палітычнага працэсу, ён адразу згубіць дынаміку.

У любым выпадку, каб разумець формулу выбараў 2018-га, трэба дачакацца восені 2017-га. Увосень у краіне адбудуцца муніцыпальныя выбары. Калі сталічны рух супраць рэнавацый, які карыстаецца адносна вялікай падтрымкай масквічоў, зможа гучна заявіць пра сябе, не выключаны варыянт фармавання на яго базе новай шырокай апазіцыйнай кааліцыі.

На той час вызначыцца з кандыдатурай у прэзідэнты і ўлада. І не факт, што гэта будзе Пуцін.

Пасля 12 чэрвеня з'явілася нейкае калектыўнае пачуццё, што Расія жыве прадчуваннем пераменаў. Тыя перамены для адных абавязкова прынясуць пазітыў, а для іншых, наадварот, патыхаюць трывогай. Аднак усе згодныя, што перамены непазбежныя. Гэты фактар — маральна-псіхалагічны запыт грамадства на новае — здольны паўплываць на кастынг кандыдата ад улады і змест яго праграмы.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Сара Вагенкнехт



Нямецкая партыя «Левыя» і яе лідарка прынялі праграму на восеньскія выбары ў Бундэстаг. У прынцыпе, гэта звычайная праграма партыі левага кірунку, аднак інтарэс да яе аказаўся каласальны.

Усё таму, што частка палажэнняў праграмы робіць немагчымай кааліцыю з сацыял-дэмакратамі і «Зялёнымі». Нагадаем, што выключна ў фармаце падобнай кааліцыі Марцін Шульц, лідар эсдэкаў і асноўны канкурэнт Ангелы Меркель, меў шанс заняць пасаду канцлера. Цяпер, нават у выпадку, калі ўсе левыя партыі атрымаюць большасць у Бундэстагу, яны наўрад ці знойдуць агульную мову. Напрыклад, «Левыя» заклікаюць да такіх не прымальных для эсдэкаў рэчаў, як роспуск NATO, замена блоку сістэмай калектыўнай бяспекі з удзелам Расіі, рэформа валютнай сістэмы ЕС і гэтак далей. Пры гэтым «Левым» не падабаюцца не толькі ідэалагічныя тэзы эсдэкаў, аднак і асабістыя якасці Марціна Шульца, бо той не падобны на Джэрэмі Корбіна — вельмі левага лідара брытанскіх лейбарыстаў.

Хаця, дзякуючы партыі Сары Вагенкнехт, чарговае прэм'ерства Ангелы Меркель цяпер падаецца непазбежным, у выбарчай кампаніі ў Бундэстаг застаецца шмат незразумелага. Галоўная загадка — хто стане партнёрам хадэкаў у будучым кабінеце?

### Серж Саргсян



Прэзідэнт Арменіі збіраецца зрабіць гімнам краіны песню славутага французскага шансанье, этнічнага армяніна Шарля Азнавура «Табе, Арменія». Пра гэта паведаміў сам Азнавур 12 чэрвеня пасля візіту на гістарычную радзіму.

Песня «Табе, Арменія!» была напісаная пасля Спітакскага землятрусу 1988 года. Нашто Саргсян задумаў рэформу, незразумела, паколькі змена гімна ў Арменіі — вельмі балючая тэма. Цяперашнім гімнам краіны з'яўляецца гімн першай Армянскай рэспублікі (1918–1921) вядомы як «Мая радзіма». Аднак, на думку экспертаў, па сваіх мастацкіх якасцях «Мая радзіма» саступае ўзроўню гімну Армянскай СССР, музыку да якога напісаў славуты кампазітар Арам Хачатуран. Тым больш, што цяперашні гімн грунтуецца на тэматычна далёкім ад Арменіі вершы «Песня італьянскай дзяўчыны» (1859), якая распавядае пра патрыётаў Італіі.

У 2006-м урад Арменіі паспрабаваў зрабіць варыянт Хачатурана афіцыйным гімнам, што выклікала пратэсты нацыяналістаў, якія пабачылі ў гэтым рэабілітацыю савецкіх часоў. На іх думку, «Мая Радзіма» — арганічны і сугучны тым падзеям, якія перажывала Арменія. У выніку ўлада была вымушаная адмовіцца ад змены гімну. Застаецца пачакаць, як адрэагуюць армяне на ідэю зрабіць гімнам песню Азнавура, якая ў першапачатковым варыянце гучала на французскай мове.

### Арлін Фостэр



Старшыня Дэмакратычнай юніяністкай партыі (DUP), якая дзейнічае ў Паўночнай Ірландыі, не хавае, што DUP арыентуецца на мясцовых пратэстантаў і традыцыйна лічыцца лакальнай партыяй. Аднак структуру нечакана запрасілі ў склад нацыянальнага ўраду. За кошт групы дэпутатаў DUP лідар кансерватараў Тэрэза Мэй мае намер вырашыць праблему дэфіцыту мандатаў для фармавання ўраду, які будзе абапірацца на парламенцкую большасць.

Навіна пра запрашэнне юніяністаў у склад ураду абурыла грамадства, бо партыя Фостэр мае кепскую рэпутацыю. Яе прыхільнікі ў свой час крытыкавалі не толькі правы гомасексуалістаў (адзін раз DUP нават умудрылася правесці выбарчаю кампанію пад лозунгам «Выратуем Ольстэр ад садамітаў»), аднак нават права на аборты. Кіраўніцтва DUP лічыць, што феномену глабальнага пацяплення не існуе, выкладанне тэорыі Дарвіна ў школах трэба забараніць, а ўсе бландзінкі — асобы лёгкіх паводзін.

Аднак найбольш небяспечна тое, што ўдзел DUP у брытанскім кабінеце можа справакаваць рост міжканфесійнай напружанасці ў Паўночнай Ірландыі. Сапраўды, іх радыкальныя фракцыі ўжо запатрабавалі, каб Мэй за падтрымку DUP дазволіла забароненыя ў свой час антыкаталіцкія маршы, якія не абыходзіліся без забойстваў.

Алесь КІРКЕВІЧ,
Андрэй ВАШКЕВІЧ

**Беларусы, паводле рэйтынгаў Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, займаюць другое месца ў свеце па ўжыванні алкаголю. Наша норма: 16 літраў чыстага алкаголю на дарослага чалавека на год. Апярэджваюць толькі літоўцы, «сябры» па ВКЛ. Зусім побач апынуліся ўсе нашы суседзі: малдаване, украінцы, расіяне і палякі. Наш рэгіён — самы пітушчы на планеце. Чаму?**


Шляхта ў карчме

### Святая праўда

*О, колькі гора з водкі ў нас!*
*Хто з ёй не стаў гол,*
*як той кол?» —*
*Сказаў з павагай Апанас,*
*Паўкварты ставячы на стол.*

*«Святая праўда,*
*мой кумок!» —*
*З павагай Юрка патакнуў*
*І, ляк скідаючы набок,*
*Другую кварту адаткнуў.*

**Я.Купала, 1906–1910**

# Гарэлка як фактар падзення Рэчы Паспалітай

Дамінуючая частка рынку — гэта гарэлка. Далей ідуць танныя гатункі вінаў, дакладней, спірт, разбаўлены сокам альбо араматызатарамі. Далей — вінаградныя віны, дыстыляты (віскі, брэндзі і інш.) ды піва.

Гэта дзіўна, бо гарэлкавыя традыцыі ў нас не такія ўжо і старадаўнія. Варта звярнуцца да гісторыі.

Традыцыйна лічыцца, што славяне спакон веку пілі піва ды так званы «пітны мёд». Мёд даходзіў да 16 градусаў, піва ўвогуле было слабенькім — 2–3 градусы. Піва было таксама харчаваннем ды антысептыкам, якім можна было прамываць раны, рабіць прымочкі. Да XVI стагоддзя піва адназначна дамінуе. Адкуль тады на нашых землях з'явілася гарэлка і што гэта ўвогуле такое?

### «Гарэлка», бо горкая?

У нашым абароце існуюць адразу дзве назвы: «водка» і «гарэлка». Першая паходзіць ад «вады», этымалогія зразумелая. Але менавіта гэтая назва на тэрыторыі ВКЛ амаль не сустракаецца. «Wódka» ў Польшчы ўпершыню згадваецца ў XV стагоддзі, у Маскові — у XVI. На нашых землях гэты напой заўсёды называўся «віно», прычым з прыдомкам: «палёнае», «гарэлае» альбо «гарачае». Адсюль і пайшло слова «гарэлка» ці ўкраінская «горілка». Паводле польскай версіі, «гарэлка» — бо горкая, але гэта не зусім так. Гарэлае віно, значыць дыстыляванае, тое, што прайшло працэс перагонкі ў дыстыляцыйным кубе.

Лічыцца, што моцны алкаголь упершыню выдумалі арабы прыкладна ў 1000 годзе. Яны навучыліся пераганяць віно, а пасля і іншыя прадукты, у гарэлку. Аднаразовая перагонка — гэта каля 30 градусаў. У XIII–XIV стагоддзі гэтыя кубы, якія таксама называліся алембікусы, былі завезеныя з Паўночнай Афрыкі ў Еўропу. Ці не перашкаджаў арабам іслам? Па-першае, у пэўных колькасцях арабы заўжды ўжывалі алкаголь. Па-другое, і



Сатыра на п'янства ў заходнебеларускай газеце, 1920-я гады

там, і пазней у нас, гэты прадукт пазіцыянаваўся як лек — «aqua vitae» — вада жыцця. Лічылася, напрыклад, што гарэлка лечыць нават ад халеры.

Ёсць версія, што да распаўсюду гарэлкі па Еўропе моцна спрычыніліся галандцы. Яны займаліся гандлем і былі змушаныя перавозіць віно на вялікія адлегласці. Калі ўмовы былі не адпаведнымі, віно псавалася, таму яго і пачалі пераганяць, атрымліваўся вінны дыстылят, які пасля, пры патрэбе, можна было разбаўляць. У цяперашнім разуменні яны рабілі кан'як.

### У XVII стагоддзі было ўжо не да піва...

У ВКЛ перагонныя кубы разам з таямніцамі ўсяго працэсу трапілі з Караляўца, то бок Кёнігсберга, прыкладна ў XV стагоддзі. Адна з першых згадак гарэлага віна на Гродзеншчыне адносіцца да 1507 года, калі Ваўкавыск атрымаў прывілей на Магдэбургскае права: у горадзе было дазволена рабіць гарэлае віно. Цікава, што слова «віно» на нашых землях з'явілася раней за вінаград ды паняцце віна ў сённяшнім разуменні. Пэўны час віном у нас называлі ці не ўсе алкагольныя напоі, апроч піва.

У XVI стагоддзі, за часамі каралевы Боны, гарэлку рабіць было нявыгадна. Чаму? З-за недасканалай тэхнікі, то бок самога дыстыляцыйнага апарату. Каб зрабіць, напрыклад, 0,7 гарэлкі, патрэбна было ўкласці 10 кілаграмаў збожжа. Гэта было і дорага, і сам алкаголь атрымліваўся слабы — каля 30 градусаў. Зерне было прасцей прадаць за мяжу, то бок пра гарэлачны бізнес гаворкі не ішло.

Але ўжо ў XVII стагоддзі адбыўся пералом. Па-першае, у Еўропе ўпалі кошты на збожжа, якім раней гандлявала Рэч Паспалітая. Зерне стала выгадней пакідаць тут, рабіць гарэлку ды прадаваць падданым. Па-другое, варта ўзгадаць пра геапалітычныя катастрофы, якія закранулі нашы землі. Скажам, чалавек, які перажыў 13-гадо-


Габрэй каля занядбанага будынку карчмы


Карчма ў былой Рэчы Паспалітай, 1842 год

вую вайну, ужо рабіўся «філосафам» адносна стаўлення да жыцця, сям'і і гаспадаркі. Народ змяніўся, было ўжо не да піва.

Паспрыяла гарэлцы і цудоўная шляхецкая вольнасць, якая была зацверджаная ў Генрыхавых артыкулах яшчэ ў XVI стагоддзі. Гаворка аб праве прапінацыі, згодна якому кожны землеўладальнік мог прадаваць нелімітаваную колькасць гарэлкі на сваёй тэрыторыі, сплочваючы адно пэўны падатак каралю. У хуткім часе гандаль гарэлкай стаў клондайкам для шляхты і дзяржавы.

## Рэч Паспалітая як чэмпіён па п'янстве

Хто піў гарэлку? Усе. Напрыклад, шляхціц за год мог выпіць да 700 (!) літраў піва, а ў дадатак каля 40 літраў гарэлкі, што гучыць абсалютна неймаверна. Колькі дакладна пілі сяляне, на жаль, не вядома, але піць яны былі вымушаныя. Кожны селянін меў падатак у выглядзе гарэлкі, якую ён быў абавязаны набыць у пана. Калі, напрыклад, селянін не хацеў яе набываць па нейкіх прычынах, эканом гарэлку яму прыносіў дадому, маўляў, можаш хоць выліць, але грошы за яе заплаціць абавязаны.

Для шляхціцаў, якія адчынялі гарэльні напрыканцы XVII — пачатку XVIII стагоддзяў, гэта было фантастычнай крыніцай прыбытку. Звычайны ж люд меў права гнаць гарэлку толькі «для асабістага ўжытку» — на Вялікдзень, Каляды ды вяселлі. І тое, гарэлку трэба было ўжыць цягам трох дзён: на чацвёрты мог прыйсці эканом і вывернуць напой на зямлю альбо забраць сабе. Сэнс быў такі: піць трэба было панскі алкаголь. Тады ж адчыняецца неймаверная колькасць корчмаў, з'яўляюцца прыказкі пра гарэлку і г.д.

Наўрад ці будзе памылковым сцвярджаць, што ў XVIII стагоддзі Рэч Паспалітая была адназначным чэмпіёнам у плане п'янства. Гэта, безумоўна, сталася адным з фактараў канца дзяржавы. Былі часы, калі падатак ад гарэлкі — грошы, за якія народ набываў яе, — складаў 25 працэнтаў бюджэту. Да слова будзе ўзгадаць выраз, маўляў, Рэч Паспалітая была заезджай карчмой, куды заходзіў піць ды есці кожны, хто хацеў, а пасля сыходзіў, не расплаціўшыся.

## Падвойная, алембікавая, «Алаш» і «Danziger Vodka»

Пасля падзелу Рэчы Паспалітай, права прапінацыі ў Расіі было пакінутае менавіта ў 16-ці заходніх губернях. Гэта быў неймаверны падарунак для мясцовай шляхты, бо на астатняй тэрыторыі імперыі землеўладальнік не мог свабодна прадаваць гарэлку, існавала сістэма «откупаў». Што гэта? «Откуп» — гэта падатак, які трэба было плаціць дзяржаве за права на манапольны продаж гарэлкі на канкрэтнай тэрыторыі. Пры гэтым не было розніцы, хто ты: мешчанін альбо дваранін. Дарэчы, шматлікія расіяне свае капіталы на пачатку XIX стагоддзя зрабілі менавіта на «откупах».

Вельмі ўмоўна можна палічыць, напрыклад, колькі пілі гродзенцы на пачатку XIX стагоддзя. У 1817 годзе лічба склала б прыкладна 20 літраў чыстага алкаголю на чалавека. Такім чынам, можна смела сцвярджаць, што 200 гадоў таму беларусы пілі яшчэ больш, чым зараз.

Што пілі? Па-першае, менавіта дыстыляваную гарэлку, самагон (хоць сам тэрмін «самагон» адносіцца прыкладна да часоў Першай сусветнай вайны). Яна таксама была рознай. Пілі звычайную алембікавую (ад назвы таго самага арабскага алембікуса), перагнаную праз самагонны куб. Пілі падвойную, якую перагналі двойчы, яна даходзіла да 40 градусаў. Пілі французскую — такую назву мела любая замежная гарэлка.

Пілі таксама знакамітую гданьскую гарэлку, у якую клалі пласцінкі залатой фольгі. Апошняя, напрыклад, згадваецца ў «Пане Тадэвушы», а ўжо ў нашы дні яе можна набыць у Германіі пад назвай «Danziger Vodka». Папулярныя былі і іншыя напоі, напрыклад, кменны лікёр «Алаш». Яго першапачаткова рабілі ў Курляндыі, але папулярным ён стаў ужо пасля пераезду ў Лейпцыг, дзе спачатку з'явіўся на таргах. Сёння гэта ўжо традыцыйны нямецкі напой.

Як рабіліся смакавыя гарэлкі? Сёння мы бачым у крамах цэлыя шыхты моцнага напою з калейдаскопам смакаў, але як гэта робіцца — невядома. Найчасцей гаворка ідзе адно пра араматызатары, хімію. Раней жа хрэн альбо кмен дадаваўся непасрэдна, вадкасць настойвалася, а пасля яшчэ раз пераганялася. У выніку — чысты празрысты напой, які захоўваў якасці, смак і пах таго інгрэдыенту, які быў дададзены напачатку.

## Бульба як сыравіна для гарэлкі

У 1830–1840-х расіяне пачынаюць зварочваць прававу спадчыну ВКЛ. Верагодна, скасаванне Статута ВКЛ і царкоўнай уніі для шляхты было непрыемнасцю, але забарона на свабодную прапінацыю, вольны выраб і гандаль гарэлкай сталася сапраўдным ударам. Знікла сур'ёзная крыніца прыбытку.

Па меры пераходу сялянаў з паншчыны на чынш, адміраў паступова і інстытут абавязковай закупкі сялянамі гарэлкі ў пана. Пераломнымі, зноў жа, можна лічыць 30–40-я гады XIX стагоддзя. Такім чынам, у Расійскай імперыі, як ні парадаксальна, беларусы пачалі акурат цверазець, а не співацца, насуперак стэрэатыпам.

Дарэчы, менавіта шматлікім вінакурням, дзе рабілася «гарэлае віно», беларусы абавязаныя масаваму з'яўленню... бульбы. Бульбу ў нас пачалі вырошчваць напрыканцы XVIII стагоддзя, але ў якасці агароднай культуры — вялікія плошчы ёй ніхто не засаджваў. А вось землеўласнікі прымусілі людзей саджаць бульбу паўсюдна, бо гэта самая выгадная сыравіна для вытворчасці гарэлкі. Яе парылі ў адмысловых запарніках і гналі алкаголь.

## Казённая гарэлка супраць старкі

У 1895 годзе была ўведзеная дзяржаўная манаполія на гарэлку — так з'явілася казённая гарэлка. У чым было яе адрозненне? Гэта быў спірт-рэктыфікат, які


Карчма ў былой Рэчы Паспалітай, 1842 год


Казак, які п'е гарэлку, пач. XIX ст.

рабіўся ў рэктыфікацыйнай калоне, не праходзячы праз змеявік. Падчас такой тэхналогіі адыходзяць усе фракцыі, якія робяць умоўны самагон самагонам, віскі альбо джынам, але атрымліваецца чысты 92–96-градусны спірт. Атрымана спірт ішоў на «казённыя вінныя склады», фактычна тагачасныя спіртзаводы, дзе ўсё гэта разбаўлялася вадой і атрымліваўся гатовы прадукт.

Гарэлка была двух відаў: «белагалоўка» і «краснагалоўка». Першая — 40 градусаў, традыцыйны варыянт, другая — 50 з нечым. Гэта і была самая масавая гарэлка, якая пачала прадавацца паўсюдна. Права на вытворчасць іншых гатункаў алкаголю дзяржава пакінула вольным гульцам рынку. Па-ранейшаму існавалі шляхецкія спіртзаводы, якія свой дыстыляваны спірт прадавалі дзяржаве на рэктыфікацыю. Нехта рабіў і прадаваў старку, нехта — пейсахоўку. Але гэты прадукт абкладаўся акцызам, таму і каштаваў значна даражэй за «казённую».

Пейсахоўка, альбо малага (гродзенскі варыянт назвы) — гэта гарэлка, зробленая з разынак, габрэйскі рэцэпт. Старка — гэта дыстылят, вытрыманы ў бочцы. Прычым, бочка павінна быць не першаснага, а другаснага карыстання. У выніку атрымліваўся «напой багоў». У шляхты нават была традыцыя: калі нараджаўся сын, ставілася старка, якая адкрывалася ўжо ў дзень ягонага паўналецця. Сучасная літоўская старка, зрэшты, гэта ўжо зусім іншае: яна, на жаль, зробленая на аснове рэктыфікату.

## «О, колькі гора з водкі ў нас!..»

У беларусаў традыцыйна склалася супярэчлівае стаўленне да гарэлкі: з любоўю і адначасна з сумам. Сярод прыказак можна сустрэць цалкам палярныя варыянты ўспрымання. Напрыклад: «Чалавек не свіння, ваду піць не будзе». І тут жа: «Ад «манаполі» не будзеш мець волі». Пад «манаполяй» разумеецца акурат дзяржаўная гарэлка.

Адзін з першых беларускамоўных вершаў Яна Баршчэўскага — «Гарэліца» — зноў жа, прысвечаны гарэлцы. У апавяданні Якуба Коласа «Малады Дубок» Андрэй ідзе да Нёмна і з сумам узгадвае, што недзе тут калісьці стаяла карчма з добрай гарэлкай, не тое, што сучасная «манапалька». Можна ўзгадаць і радкі Купалы: «О, колькі гора з водкі ў нас!..»

Пісьменніца Данута Бічэль некалі пісала, што да 1939 года ў Заходняй Беларусі пілі кілішкамі і па святах, калі ж прыйшлі Саветы — сталі піць гранёнымі шклянкамі ды ледзьве не штодня.

І тут ёсць зерне праўды, бо чым больш селянін быў гаспадаром, чым больш нешта залежала асабіста ад яго — наяўнасць зямлі, жыццёвых перспектываў, грошай — тым меней піў. Гэта аб'ектыўна. Народ п'е тады, калі няма перспектывы і прасветаў. Для некаторых даследчыкаў было адкрыццём, што людзі на пачатку XX стагоддзя пілі меней, чым на пачатку XIX.

Адкуль мог узяцца міф пра вечна п'яных расіян, якія спаілі беларусаў? Магчыма, яго прынеслі беларускія бежанцы з-пад Гродна ці Навагрудка, якія дагэтуль жылі нармальным жыццём і мелі моцныя гаспадаркі, але за часам Першай сусветнай вайны трапілі ва ўнутраныя губерні передрэвалюцыйнай Расіі, дзе абясцэньваліся грошы і самагон стаў валютай, а пасля пачалася Рэвалюцыя 1917-га і Грамадзянская вайна, дзе пілі ўсе ад роспачы і адчування, што ані майно, ані жыццё нічога не каштуюць. Такое ўражанне і засталося.

## Калі піць, то якаснае і са смакам

Цікава, што сёння беларусы вельмі павольна, але ўсё ж такі цверазеюць ды вяртаюцца да традыцыйных моцных напояў, то бок дыстылятаў. Вядома, што ў СССР за выраб самагону людзей праследавалі. У нас жа, згодна праўкам у законе, прынятым пару гадоў таму, дазволена рабіць дыстыляваны алкаголь: дома можна ставіць самагонны апарат ды «гнаць», але толькі для асабістага ўжытку.

Справа ў тым, што спажыванне дыстылятаў, а не крамных рэктыфікатаў, гэта яшчэ і фактар культуры піцця, традыцыя. Як вядома, эфект ад дыстыляту, таго ж віскі, наступае марудней, але і трымаецца даўжэй. Шмат не вып'еш, хаця б з-за кошту, але смак адчуеш. Звычайная ж гарэлка з крамы, хай і не «кусаецца» ў грашовым плане, але не мае ані смаку, ані «душы». Мабыць, нездарма даследчык Алесь Белы прапаноўвае ўвесь крамны рэктыфікат называць па-ранейшаму «водкай», а дыстылят — гарэлкай.

Падводзячы рысу і зноў вяртаючыся да гісторыі, варта адзначыць, што міф пра наўмыснае спойванне беларусаў тымі ці іншымі народамі-суседзямі мае заняць пачэснае месца менавіта сярод міфаў. Што ў Рэчы Паспалітай, што ў царскай Расіі гарэлка прадукавалася агромністымі колькасцямі не для таго, каб кагосьці «вынішчыць» ці «адурманіць», але каб зарабіць грошы, атрымаўшы фантастычную выгаду.

Наступная заканамернасць, якая напрошваецца сама сабой, зусім не складаная: чым больш беларус будзе браць жыццё ў свае рукі, маючы бізнес, капітал, добрую працу і самапавагу, тым менш будзе піць — у яго на гэта наўпрост не будзе часу. А калі піць усё ж такі будзе — то якаснае, тое, што прыносіць задавальненне, а не забыццё.

# Нам патрэбна ваша падтрымка!

## Да канца падпісной кампаніі на ІІ паўгоддзе застаўся ўсяго тыдзень!







Шаноўныя чытачы, дзесяць гадоў большасць з вас атрымлівала «Новы Час» бясплатна. У нас была такая магчымасць, і мы з задавальненнем дзяліліся з вамі тым лепшым, што маглі даць: родным словам і цікавымі артыкуламі.

На жаль, з ліпеня газета «Новы Час» па Беларусі будзе распаўсюджвацца толькі па падпісцы праз РУП «Белпошта». А ў Мінску і Мінскай вобласці — па падпісцы праз РУП «Белпошта» і праз шапікі РУП «Белсаюздрук».

Падпісацца на «Новы Час» можна: у аддзяленнях паштовай сувязі; праз сістэму «Інтэрнэт-падпіска»; пры дапамозе плацёжна-даведачных тэрміналаў. Таксама можна зрабіць заяўку ў любым аддзяленні паштовай сувязі на афармленне падпіскі паштальёнам у вас дома на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Падпісны індэкс «Новага Часу» — 63279. Кошт падпіскі: на 1 месяц — 2 рублі 43 капейкі, на адзін квартал — 7 рублёў 29 капеек, на ІІ паўгоддзе — 14 рублёў 58 капеек.

Для таго, каб паспець падпісацца на ІІ паўгоддзе, засталося толькі два тыдні. А афармленне і аплата падпіскі праз сістэму «Інтэрнэт-падпіска» на ліпень-снежань 2017 года правадзіцца толькі да 22 чэрвеня.

Мы ведаем, што зараз у кожнага з вас не лепшыя часы, і нават некалькі рублёў з сямейнага бюджэту выдаткаваць цяжка. Аднак мы звяртаемся да вас, нашы самыя лепшыя і адданыя чытачы, бо без вас «Новы Час» не здолее выжыць. Мы не збіраем грошы на існаванне, мы проста просім вам падпісацца на вашу, спадзяемся, любімую газету.

Падпішыцеся самі, прапануйце падпісацца суседзям і сябрам — і разам з вамі мы адкрыем новую старонку ў жыцці газеты. Старонку салідарнасці і сяброўскай падтрымкі.

Мы спадзяемся, што ў гэты складаны для ўсіх час вы не адмовіцеся ад «Новага Часу», бо верыце, што разам мы дачакаемся лепшага.

З гэтай верай у лепшае мы чакаем вас, нашы будучыя падпісчыкі! А таксама паведамляем, што сярод першых 500 падпісчыкаў будуць разыграныя спецыяльныя падарункі ад рэдакцыі.

Дзякуй, што былі з намі ўсе гэтыя гады! Дзякуй, што будзеце і далей! Разам мы дачакаемся новых часоў!



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №566

Падпісана да друку 16.06.2017. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.